
Жыве Купала! →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Пэтро Мур'янка →9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 18 (3077) Год LX | Беласток, 3 мая 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





«Маланка» на сцэне з яе кіраўніком, Сяргеем ЛУКАШУКОМ (справа)

# «Як заўсёды маладыя...» на 529 канцэрце

25 красавіка 2015 года калектыў «Маланка» вялікім багатым канцэртам адсвяткаваў свой юбілей 25-годдзя мастацкай дзейнасці на сцэне Бельскага дома культуры. Абяцалі яму ўлады Бельска, што наступныя юбілеі будзе спраўляць на новай сцэне Бельскага цэнтра культуры.

Аматарскі, але ж прафесійны Калектыў беларускай песні „Маланка", якому патрануе Згуртаванне «Музей малой айчыны ў Студзіводах», а фінансава падтрымліваюць Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі РП і бургамістр горада Бельск-Падляшскі, дзейнічае з 1990 г. пры Бельскім доме культуры ў Бельску-Падляшскім пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. Рэпрэзентуе беларускую меншасць, якая жыве ва ўсходняй частцы Падляшскага ваяводства. Рэпертуар калектыву складаюць, у асноўным, беларускія народныя песні. У калектыве спявае дзевяць жанчын і трох мужчын, якія ствараюць вакальную групу. У складзе інструментальнай групы — 6 музыкаў — два акардэоны, скрыпка, бас, ударныя інструменты, тамбурына. За перыяд 25 гадоў выступіла на больш за 520 канцэртах у Польшчы, а таксама ў Беларусі, Расіі, Францыі, Нямеччыне. У сваёй дзейнасці «Маланка» запісала і выдала 6 магнітафонных касет і 4 дыскі. Гурт «Маланка» шмат разоў прадстаўляў беларускую меншасць на нацыянальных і этнічных фэстах меншасцей у Варшаве, Пуньску, Дабрадзені, Млынарах і Гданьску. За мастацкую дзейнасць міністр культуры ўзнагародзіў гурт «Маланка» адзнакай «Заслужаны для польскай культуры» і ганаровай граматай. «Маланка» таксама з'яўляецца неаднаразовым лаўрэатам Агульнапольскага фестывалю беларускай песні, арганізаванага Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Сёлета на цэнтральным яго аглядзе ў Гайнаўцы заваявала I месца песняй «Мы вам жадаем». З нагоды юбілею музыкі запісалі і выдалі свой чацвёрты дыск, які назвалі «Мы вам жадаем». На гэтым дыску 23 песні, між іншым «Ручнікі», «Медавуха» — у выкананні салісткі Святланы Кобус, «Матулі яблыні» ў выкананні дуэта Святлана Кобус і Анна Паплаўская, «Цвіце, цвіце чарэшанька» ў выкананні дуэта Яўгенія Барысюк і Канстанцін Селавановіч і іншыя. У гурце за час ягонай дзейнасці выступала каля 40 музыкаў. Зараз у вакальнай групе выступаюць Яўгенія Барысюк, Эмілія Драздоўская, Марта Каліноўская-Сідарук, Галіна Кійко. Святлана Кобус, Марыя Саўчынская, Мажэна Шэшка, Магда Владарчык, Юстына Мад'янчык-Леўчук, Лідзія Маліноўская, Марк Хмур, Анатоль Нічыпарук, Кастусь Селевановіч, а ў інструментальнай — Пятро Артэмюк, Веслаў Далінскі, Сяргей Лукашук, Кшыштаф Нявінскі, Багуміла Кісель, Андрэй Нікіцюк і Багуслаў Шульц — не толькі беларусы, але і палякі. Выступалі ў гурце таксама, між іншым, Алег Кабзар, Васіль Негярэвіч, Данута Тымашэвіч і Альжбета Тамчук (Фіёнік), якая вяла юбілейны канцэрт. У фінале на сцэне паявіліся ўсе прысутныя былыя сябры калектыву, апрача святой памяці Юркі Харкевіча, паэта і спевака, пра якога ніхто не забыўся.

Адкуль узялася «Маланка»? Ахрысціў яе Мікола Бушко, які вёў І Агульнапольскі фестываль беларускай песні. Калектыў „Маланка" ўзнік у час тадышняга крызісу хору „Васілёчкі". У той час хор не выступіў. Першае месца заняў тады бельскі тэрцэт Лідзія Маліноўская, Аліна Бурыла (Ваўранюк) і Багуслава Карчэўская, а на другім месцы апынуўся бельскі дуэт Яўгенія Барысюк і Кастусь Селевановіч. Мікола Бушко пачуў ад дзяўчат фразу: „Мы спяваем песні задзёрна, як маланка" і прадставіў бяльшчан гуртом „Маланка". Летам 1990 года тэрцэт і дуэт аб'ядналіся. Далучыліся да іх Крысціна Андраюк-Вапа і Юрка Харкевіч. Калектыў захаваў гучную і трапную назву „Маланка", — успамінаў першыя гады дзейнасці мастацкі кіраўнік „Маланкі" Сяргей Лукашук, які раней на працягу 20 гадоў кіраваў хорам „Васілёчкі". За тыя гады дзейнасці «Маланка» пастаянна ўзнагароджваецца, бярэ першыя прызы «за меладычныя вясёлыя песні, якія маланкава ўваходзяць у нашыя сэрцы, каб застацца там надоўга". „Маланка" дала шэраг канцэртаў на Беласточчыне, выступала ў розных гарадах Польшчы і за мяжой. „Маланка" пабывала, між іншым, на Свяце Еўропы ў Сен-Ламбер у Францыі, спявала ў Бад-Эсэн у Нямеччыне, у Расіі, некалькі разоў канцэртавала ў Беларусі. Калектыў рэпрэзентаваў беларускую супольнасць на фестывалях нацыянальных меншасцей у Варшаве, Гданьску, Дабрадзені. На юбілеі за руплівую і відную працу Залатым крыжам заслугі ўзнагароджаны Яўгенія Барысюк, Святлана Кобус і Канстанцін Селевановіч, сярэбраным — Веслаў Далінскі, бронзавым — Марыя Саўчынская. Па заяве бургамістра Бельска міністр культуры і нацыянальнай спадчыны за заслугі для культуры ўшанаваў адзнакамі «Заслужаны для польскай культуры» Лідзію Маліноўскую, Багуслава Шульца, Анатоля Нічыпарука. Увесь калектыў атрымаў ганаровую адзнаку Падляшскага ваяводства за выдатныя заслугі ў прамаванні беларускай музычнай культуры, а некаторыя заслужаныя ўдзельнікі таксама грашовыя прэміі ад бургамістра Бельска. А граматамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь — Марк Хмур, Кшыштаф Нявінскі і Лідзія Маліноўская,

— Столькі людзей прыйшло, якія хацелі нас павіншаваць. Дыпламаты, духавенства, улады горада, ваяводства, з міністэрстваў, самаўрадаўцы. Варты нашы музыкі ўзнагарод, бо 25 гадоў працуюць у «Маланцы», а гэта не толькі яркія выступленні, але і карпатлівыя тыдні працы, рэпетыцый, выездаў, часу адабранага сям'і і іншым справам, — цешыцца стомлены але ззяючы Сяргей Лукашук. — Выканалі мы 17 песень, частка песень знаходзіцца на новым дыску, які мы выдалі ў мінулым годзе. Некаторыя песні — з сёлетняга конкурсу беларускіх песень. 25 гадоў — гэта шмат гадоў, трэба вытрымаць. Я ў калектыве спяваю ад самага пачатку, падобна як 75 адсоткаў удзельнікаў калектыву.

— Ад вас б'е, як ад усёй «Маланкі», так і ад кожнага яе сябра, цяпло і энергія не толькі на сцэне, але і на бельскай вуліцы, — прызнаўся бельскі бургамістр Яраслаў Бароўскі. — І ніяк не старэеце, дзяўчаты і хлопцы!

Павіншаваць калектыў з юбілеем прыехаў народны ансамбль музыкі і песні „Заранiца" Магдалінскага сельскага дома культуры Кобрынскага раёна ды падляшскі калектыў „Ас". Багатая і з падарункамі прыехала дэлегацыя з Кобрына з ідэяй пашырэння супрацоўніцтва культурных і іншых устаноў Кобрына на Берасцейшчыне і Бельска-Падляшскага.

На 530 канцэрт запрасіла бельскую «Маланку» Арлянская гміна.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ





# Першая ластаўка

Я чакаў нечага такога даўно. Ужо некалькі год запар, штодзённа заглядаючы ў сусветнае павуцінне, я з жахам шукаў пацвярджэння сваім падазрэнням, наіўна спадзяючыся на тое, што яны не спраўдзяцца. Але не туды тое. Спраўдзіліся. І вось цяпер, нарваўшыся на адзін цікавы матэрыял са славутага заходнебеларускага горада Слоніма і сам не ведаю, смяяцца з яго ці маркоціцца. Справа ў тым, што жыхары двухпавярховага слонімскага дома № 71 Б, які знаходзіцца на вуліцы Пушкіна, згубіўшы ўсялякую надзею на тое, што іх пачуюць на радзіме, вырашылі звярнуцца па дапамогу да кіраўніка замежнай краіны.

Не, не думайце што яны прыдумалі нейкі новы спіс кшталту спіса Магніцкага, ці запатрабавалі ўзмацніць санкцыі супраць службовых асоб нашай краіны за брутальныя і сістэматычныя парушэнні іх чалавечых правоў. Усё нашмат празаічней. Жыхары Слоніма проста папрасілі кіраўніка іншаземнай краіны ўсяго толькі адрамантаваць у іх доме дзіравы дах.

Гісторыя гэтай чалабітнай іншаземнаму ўладару да прымітыўнасці простая і яшчэ больш банальная. Справа ў тым, што чатыры гады таму быў зроблены капітальны рамонт даху іх дома. Будаўнікі тую хатку так „адрамантавалі", што яе жыхары не ведаюць што рабіць і куды звяртацца па дапамогу. А справа звыклая для нашых шырот і да болю звычайная. Пасля капітальнага рамонту вада проста пачала цячы прама ў кватэры. А куды ж ёй яшчэ цячы? Цячэ зверху ўніз згодна з законамі фізікі. Ад гэтай вады, зноў жа згодна з тымі законамі, паўсюдная сырасць і вільготнасць, тэмпература зімой прымушае з нецярпеннем чакаць лета, а летам маліцца пра хутчэйшы прыход зімы. Ну, як у пустынях, дзе ноччу ўсё замярзае, а днём загарае. Не вытрымаўшы такіх экстрэмальных умоў, жыхары звярталіся ў выканкам, у жыллёва-камунальную гаспадарку, у Дзяржкантроль, у міністэрствы, і нават нібыта пісалі самому кіраўніку краіны. На што толькі яны спадзяваліся, зразумець цяжка. Толькі кліматычныя ўмовы ў іх адным асобна ўзятым доме так і не змяніліся, і аніяк не адрэагавалі ні на шматлікія скаргі і прашэнні жыхароў, ні на глабальныя змены клімату нашай планеты, звязаныя з агульнапланетным пацяпленнем.

І вось цяпер уладальнікі анамальнага дома вырашылі напісаць ліст не абы-каму, а яго вялікасці самому прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну. Маўляў, раптам ён атрымае іх ліст і перакрые дзіравы дах хоць бы саломай, абы не капала на галаву. Або ў крайнім выпадку загадае беларускім уладам, каб тыя ўсё ж дапамаглі выправіць памылку слонімскіх будаўнікоў. Ліст на днях ужо адпраўлены ў Маскву. „Цікава, ці дапаможа Пуцін жыхарам Слоніма?" — жартаўліва пытаецца аўтар артыкула.

Ну а мы разважаць пра гэта не будзем, бо адказ ведаем. Проста задумаемся, чаму слонімскі люд звярнуўся менавіта да расійскага ўладара? Амерыканцы ж, здаецца, больш заможныя. Ды і ў аб'яднанай Еўропе дахі выглядаюць даволі прыстойна. А Уладзіміру Уладзіміравічу колькі тых дахаў трэба перакрыць у Крыме. А колькі на разбомбленым Данбасе. Ды і ў самой Расіі наўрад ці ўсе дахі ўпарадкаваныя належным чынам.

Але накручаную расійскімі тэлеканаламі інерцыю мышлення пра веліч, апякунства ўсім рускім светам і ўсемагутнасць расійскага праваднара ўжо не стрымаць. І слонімская чалабітная ўсяго толькі першая ластаўка, за якой абавязкова паляціць не адна зграя.

Ці думалі беларускія ўладары, як гулялі ў саюзныя дзяржавы, адзіныя прасторы, знішчэнне роднай мовы і таксама роднай мяжы, як разганялі патрыятычную ды нацыянальна свядомую апазіцыю і зачышчалі інфармацыйную прастору ад альтэрнатыўных думак, што самі могуць трапіць у пастку, пастаўленую для іншых. Бо калі нават жыхары горада, заснаванага на магдэбургскім праве, у якім яны яшчэ нядаўна самі хацелі паставіць помнік Льву Сапегу, сёння пішуць прашэнні ў Маскву пра перакрыццё даху, то гэта абазначае толькі адно: сваю ўладу, жадае тая таго ці не, яны лічаць перыферыйнай. І першая ластаўка ў выглядзе прашэння ад новых крамлёўскіх падданых з беларускага горада Слоніма ўжо прызямлілася ў крамлёўскай паштовай скрыньцы.

Усё лагічна. За што змагаліся, таго і дамагліся.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Землятрусы



Немагчыма спакойна займацца ўласным агародчыкам, калі навокал трывога ды пажар. У папярэднім фельетоне напісаў я пра гайнаўскі сыр і трохі аб маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах у Польшчы. У гэтым тэксце збіраюся працягнуць гэтую тэму, толькі ў адваротнай прапорцыі. На гэты раз мела быць больш аб выбарах і трохі менш пра сыр. Толькі што нядаўнія падзеі выбілі мяне з панталыку. Па-першае, землятрус у Непале. Другое пытанне — «Начныя ваўкі». Дазвольце мне нагадаць вам пра «Начных ваўкоў», якія з'яўляюцца нацыяналістычным матацыклетным клубам, блізкім сябрам прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Яго члены вырашылі арганізаваць мотапрабег ад Масквы, праз Варшаву ў Берлін, каб адсвяткаваць 70-ю гадавіну заканчэння Другой сусветнай вайны і ўшанаваць загінуўшых у ёй савецкіх воінаў. Толькі што ў кантэксце авантурнай пазіцыі Расіі ў адносінах да Украіны і Еўропы, кожны разумны чалавек чытае яго як сур'ёзную палітычную правакацыю. Таму як і польскія, так і нямецкія ўлады забаранілі ўезд арганізаванай групы. Нягледзячы на гэта, расійскія байкеры пранікаюць межы паасобна на падставе паважаных еўрапейскімі краінамі дакументаў, для таго, каб арганізаваць аграмадную калону на тэрыторыі Польшчы. Гэта паказвае, што планаваны імі рэйд ад самага пачатку быў задуманы не як праява салідарнасці з ахвярамі вайны, але як праява гонару Расіі і пагарды да еўрапейскага парадку. Калі б была гаворка толькі пра заганныя паводзіны пару дзясяткаў матарызаваных нацыяналістаў, аб справе не варта было б і ўспамінаць. Але справа ў тым, што яны афіцыйна падтрымліваюцца Міністэрствам замежных спраў Расіі і самім прэзідэнтам Пуціным. Праява непавагі непакорлівай групкі расійскіх грамадзян такім чынам мае палітычнае вымярэнне. І гэта як прадвесце вялікага землятрусу ў самой сярэдзіны Еўропы.

Землятрусы не рэдкасць у Непале. Але ж не заўсёды такой інтэнсіўнасці, як той, што адбыўся некалькі дзён таму. Нягледзячы на гэта, трагедыя непальцаў несупастаўная з тым, што адчуваюць амаль кожны дзень японцы або кітайцы. Аднак, калі ўсвядоміць сабе, што Непал знаходзіцца ля падножжа самай высокай гары ў свеце — Эверэсту, якая пад уплывам тэктанічных удараў захісталася як далікатная сасонка, гэта ясна паказвае, што наша цывілізацыя была пабудавана на вельмі зыбкай глебе. Мабыць, гэта добрая прычына для гэтага, каб перастаць ставіцца да зямнога шара як да чалавечай уласнасці? Права мацнейшага, якім кіруемся так на індывідуальным узроўні, як і на ўзроўні народаў, з'яўляецца толькі сведчаннем чалавечай слабасці. Вядома, ніколі не справімся са стыхіямі прыроды, але можам справіцца з нашымі эгаізмамі. І гэта ключ да выжывання нашай цывілізацыі. Які апакаліптычны землятрус павінен нас выпрабаваць, каб мы гэта зразумелі?

Маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары зрабілі ўжо невялікі землятрус у Польшчы. А за сваю будучыню трасуцца перш за ўсё палітычныя партыі. Многія каментатары нават анансавалі серыю другасных узрушэнняў, калі ў гонцы за вышэйшую пасаду ў дзяржаве пераможа кандыдат у прэзідэнты ад Права і справядлівасці, Дуда. Верагоднасць таго, што яго перамога пацягне за сабой поспех на наступных парламенцкіх выбарах партыі Ярaслава Качынскага — вялікая. Так па крайняй меры заявілі некаторыя палітолагі. Хоць гэта і невядома, чаму адно мае вынікаць з другога, але палітычныя ручкі сейсмографаў зарысоўваюць штораз большую амплітуду маючых адбыцца змен. Але якія б яны не былі, змены непазбежныя. І незалежна ад людзей, якія супраць гэтага. Некаторыя ідэі ці нават трэнды зношваюцца, гэтак жа як занадта растаптаныя абцасы ў ботах з патэнтнай скуры. Можна выправіць іх, дадаць новыя набойкі, бясконца ваксаваць іх і глянцаваць, але і так не зменіць таго факту, што яны ўжо цалкам растаптаныя. Гэта відаць простым вокам. Аб пашку, які з іх дастаецца, няма чаго і гаварыць. Гэта ж чуецца. Гэтак жа, як ад добрага, спелага сыру. Толькі што сыр, як той «Царскі» з Гайнаўкі, пакарае сэрцы спажыўцоў сваім унікальным смакам. А чым пакараюць сэрцы выбаршчыкаў палітыкі? Прытым незалежна ад таго, ці належаць яны да ГП, ці ПіС, ці да іншай любой партыі...

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Уладыслаў Барташэўскі Адыйшоў з жыцця

24 красавіка на 93 годзе жыцця памёр прафесар Уладыслаў Барташэўскі — палітык, гісторык, пісьменнік. Быў вязнем канцлагера Аўшвіц, жаўнерам Арміі Краёвай, удзельнікам Варшаўскага паўстання. Двойчы быў міністрам замежных спраў: у 1995 г. ва ўрадзе Юзафа Алексага (як г.зв. прэзідэнцкі міністр, назначаны Лехам Валэнсам) і ад ліпеня 2000 г. да кастрычніка 2001 г. ва ўрадзе Ежы Бузка. Засядаў таксама ў Сенаце. У 2007 г. быў дзяржсакратаром у Канцылярыі Рады Міністраў. У ПНР звязаўся з дэмакратычнай апазіцыяй. У час ваеннага становішча быў інтэрнаваны. Быў актыўным сведкам гісторыі, змагаўся за міжнародны дыялог, талерантнасць, справядлівасць, дэмакратычныя каштоўнасці. Глыбока перажываў за лёс нашых суседзяў, у тым ліку Беларусі. Як журналіст «Нівы» размаўляў я з Ім тройчы. Найбольш запамятаў, аднак, тое, што сказаў Вам за маім («Нівы») пасрэдніцтвам аб сітуацыі Беларусі пры нагодзе атрымання ў чэрвені 2006 г. у Беластоку «Медаля талерантнасці», які прысвоіў яму Фонд імя Людвіка Заменгофа:

— Пры шаленстве дыктатуры ніколі невядома, якую ідэю праз хвіліну будзе яна пускаць у ход, хто будзе яе ворагам. Калі ўлада дэспатычная, няма грамадскага кантролю, то няма рэцэпта, як з гэтага выбрацца. На жаль, трэба трымацца ў трывалым супрацве, у адмове адабрэння і пры міжнароднай салідарнасці. З другога боку, Польшча, маючы ў Беларусі пару соцень тысяч «заложнікаў» — этнічных палякаў, мусіць паводзіць сябе вельмі асцярожна: не можам быць у авангардзе нейкіх развязак, асабліва сілавых. Трэба ўздзейнічаць так, як у Польшчы ў свой час уздзейнічала Радыё Вольная Еўропа, на форуме ЕС і ААН і іншых міжнародных арганізацый, тлумачыць сітуацыю ў Беларусі. Для большасці краін свету Беларусь — абстрактная ўява. Для іх гэта нейкая там частка Расіі, там дзесьці, дзе паяўляюцца нейкія праблемы. Што іх гэта можа цікавіць! Мы ведаем, што гэта не так. Ведаем, напрыклад, што гістарычна ў Вялікім Княстве Літоўскім дзяржаўнай мовай была не літоўская ці польская, а беларуская. На нас ляжыць значна больш, чым на заходніх краінах Еўрасаюза, цяжар пасрэдніцтва ў беларускай справе.

Успамінаў таксама тады аб сваім жыцці: «Дыктатары мяне не любілі, затое з поўнай узаемнасцю. Не з кожным можна весці перамовы. Не з гэтым, што хоча ўдарыць ломам. Бо як жа гэта рабіць? Тлумачыць, што гэтак неэстэтычна?»

Спасылаючыся на паняцце «талерантнасць», выказаў аб ёй перакананне: «У Польшчы пануе ўсё фальшывая ўява, што дыялог абазначае навязванне свайго меркавання. У палюшках яшчэ зразуменне кампрамісу, значыць, зразуменне часткі рацыі абодвума бакамі і пошукі выхаду, які, можа, не задаволіць поўнасцю ні аднаго боку ані ў палітыцы, ані ў публічным жыцці, а і, бывае, у прыватным, але дае магчымасць сужыцця, супрацоўніцтва. Без спробы паразумення не можа быць ніякага паразумення».

Калі я распытваў яго, ці на яго думку палякі больш ксенафобны народ у параўнанні з іншымі ў адносінах да нацыянальных меншасцей, адказаў: «Я думаю, што не больш ад іншых краін, хоць гэта не суцяшэнне. Можна прывесці шмат гістарычных прыкладаў, што адносна гэтага пытання бывала ў нас лепш. Але можна таксам прывесці прыклады, што бывала і горш. У XVI ці XVII стагоддзях на фоне Нямеччыны ці Францыі выглядаем не найгорш. Але, калі сягнем да XX ст., для нас і ўсяе Еўропы вельмі цяжкага, то прыклады ксенафобіі былі шматлікія. Хоць бы такая з'ява, як антысемітызм без яўрэяў, такая з'ява аптовай антыпатыі ў думках без суб'екта. Несумненна, ксенафобія належыць да перажыткаў у катэгорыі думкі ў кантэксце нацыянальнага змагання".

Прафесар Барташэўскі спачне 4 мая на вайсковым могільніку Павонзкі. Пахаванне будзе мець дзяржаўны характар.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Свята сустрэчы

**Беларускае слова ў найлепшых з магчымых сцэнічных выданняў прагучала са сцэны беластоцкага Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі. З авацыямі публіка прыняла два розныя стылістычна выступы. Абодва паводле твораў Янкі Купалы ў выкананні Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі з Мінска: першую ў Беларусі фолькоперу «Адвечная песня» ў рэжысуры Сяргея Кавальчыка, цяпер мастацкага кіраўніка мінскага тэатра імя Максіма Горкага, ды перанесенае ў сучаснасць «Раскіданае гняздо» ў рэжысуры мастацкага кіраўніка РТБД Аляксандра Гарцуева. Візіт беларускіх мастакоў суправаджалі паказаная ў фае выстава «Янка Купала і тэатр», падрыхтаваная Нацыянальным музеем літаратуры імя Янкі Купалы ў Мінску і сустрэча са славістам Андрэем Масквіным, аўтарам трох тамоў анталогіі «Nowa dramaturgia białoruska». Гледачы мелі магчымасць пагутарыць пасля спектакляў з мінскімі творцамі.**



«Адвечная песня» – з кветкамі Тацццяна Мархель і Ігар Сігоў

Як адзначыла дырэктарка беластоцкага тэатра **Агнешка Карыткоўская-Мазур**, гастролі РТБД у Беластоку (прыехала больш за пяцьдзясят чалавек) былі святам спаткання і сутыкненнем з такога роду майстэрскім тэатрам, тэатральнай мовай, прывязанымі да сцэнічнай традыцыі, якіх у Польшчы ўжо няма:

— РТБД мае калектыў выдатных мастакоў, першакласных акцёраў, якія прыцягваюць у сваю прастору маладых людзей, якія старэйшым даюць новую энергію, а самі вучацца. Гэта надалей тэатр майстроў.

Дадала:

— Гэта спектаклі, якія як праз прызму спаглядаюць на ідэнтычнасць беларусаў.

Гастролі (22-23 красавіка) былі поўнасцю афіцыйным пачаткам пастаяннага супрацоўніцтва двух тэатраў. У ходзе візіту дырэктары абодвух тэатраў падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве, у рамках якога будуць ажыццяўляцца таксама сумесныя тэатральныя праекты. Ужо 14-16 мая на сцэне РТБД беластоцкія акцёры прадставяць «Гугулы», «Танга прагібіцыю» і «Шэкспіра». У першы дзень знаходжання ў сталіцы Падляшша артысты — як гэта звычайна кажуць — другой пасля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы сцэны ў беларускай сталіцы, прадставілі іграную з ліпеня 2002 года «Адвечную песню». Гэтая фольк-опера да гэтага часу ставіцца ў Мінску перад поўнай аўдыторыяй. Апавядае пра дарогу, якую праходзіць чалавек-беларус ад нараджэння да смерці. Спектакль з'яўляецца сінтэзам народных матываў і рок-музыкі. Ён рэфлексіўны, часам забаўны, часам кранае найбольш чулыя струны беларушчыны і звяртаецца да пачуцця беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці. Галоўную ролю Чалавека зайграў зорка беларускага тэатра і кіно, былы дырэктар РТБД **Ігар Сігоў**. У размове з «Нівай» яшчэ перад прэзентацыяй расказваў:

— Спектакль апавядае аб коле, у якім прабягае чалавечае жыццё. Аб чалавеку, які нараджаецца, вырастае, жэніцца, працуе, спрабуе штосьці вакол сябе і ў сабе змяніць, паміpae і нараджаецца нанова. Гэта спектакль не толькі аб лёсе беларуса, але чалавека наогул. Прадстаўленне ўзнікла спантанна гадамі таму. Мы ў 2002 годзе рыхтаваліся да круглай гадавіны з дня нараджэння і смерці Янкі Купалы і прыдумалі, што пакажам невялікі музычны спектакль з два або тры разы. Спектакль, аднак, пачаў жыць сваім жыццём, і з самага пачатку прыцягваў натоўпы гледачоў. Нядаўна мы аднавілі касцюмы і ўнеслі некаторыя музычныя змены ў аранжыроўку музыкі. Ён стаў візітнай карткай нашага тэатра. Іграе ў ім амаль увесь наш калектыў. Ездзілі з ім ужо ў Расію і Украіну.



«Раскіданае гняздо»

Незабыўнае ўражанне на гледачах у Беластоку (у пераважнай большасці польскіх беларусах) аказалі, па-за Ігарам Сіговым, легенда сцэны ў Беларусі Тацццяна Мархель як Маці і Зіма, а таксама выдатная Людміла Сідаркевіч як Ведзьма, і, нарэшце, маючая ўнікальны оперны голас Бела Шпінер (Восень). Яшчэ доўга пасля выступу ў вушах гучала музыка, напісаная Алегам Ханенкам з культавай групы «Палац». **Тацццяна Мархель** пасля беластоцкага паказу ў час сустрэчы з публікай падкрэсліла:

— Мы маем у гэтым спектаклі заўсёды шмат маладых людзей і вельмі добра яны яго ўспрымаюць. Сімволіка ў ім спрошчаная. Спектакль расказвае таксама пра лёс чалавека ўплецены ў кола прыроды.

**Ігар Сігоў**:

— На гэтым спектаклі ўжо вырасла адно пакаленне, якое гаворыць ужо па-беларуску і адчувае сябе поўнасцю беларусамі. (...) Купала заўсёды будзе актуальны. Найбольш, аднак, зразумелы ён для саміх беларусаў, таму што толькі яны могуць — як Чалавек у гэтай пастаноўцы — здохнуць, а пасля падняцца і пачынаць усё нанова.

Падкрэсліў, пры нагодзе:

— Здабыткам апошняга часу з'яўляецца тое, што ў Беларусі ў тэатр звярнулася моладзь, якая ўсё часцей размаўляе па-беларуску і той факт, што ўсё больш і больш спектакляў па-беларуску не толькі класікаў, але і сучасных аўтараў.

**Тацццяна Мархель**:

— У дзейнічаючым пры нашым тэатры Цэнтры беларускай драматургіі (займаецца чыткамі сучасных драматычных тэкстаў, майстар-класамі і г.д. — М. Х.) паяўляецца шмат новых беларускіх драматычных тэкстаў, глыбокіх псіхалагічна. Хацелася б, каб з'явіліся яны на сцэне, а не былі пісаны толькі ў стол. Такія магчымасці дае наш тэатр.

Таксама прызналася:

— Мая дарога ў тэатры аказалася вяртаннем у вёску, дзе я нарадзілася. Я ніколі не думала, што калі буду спяваць маміны песні, буду гаварыць са сцэны па-беларуску, гэта будзе самым важным. І гэта адбылося, і гэта мае вялікае шчасце. Тэатр для мяне гэта падарожжа туды і назад, вяртанне да маёй душы, і гэта трымае мяне на зямлі.

У сваю чаргу, прадстаўленае ў другі дзень «Раскіданае гняздо» (на жаль, з меншай цікавасцю аўдыторыі, чым спектакль папярэдняга дня) у РТБД ставіцца з красавіка 2013 г. Рэжысёр, пераносячы п'есу ў сучасныя рэаліі, задаваў пытанні аб тым, ці і як на працягу стагоддзяў змянілася свядомасць простых беларусаў. Аказваецца, што іх мары і праблемы застаюцца ранейшымі: пошук шчасця і свайго месца ў свеце, мары аб лепшым жыцці, ці барацьба за матэрыяльныя выгоды. **Аляксандр Гарцуеў**:

— Янка Купала гэта наша, беларускае ўсё. Я кажу, што п'еса па-ранейшаму актуальная, бо праз сто гадоў з часу яе напісання беларусы не змяніліся. Засталіся праблемы з таго часу: нацыянальная свядомасць, неразуменне беларусаў у свеце, пытанне аб тым, хто яны.

І пасля спектакля яго акцёры, на гэты раз у асноўным маладое пакаленне, адказвалі на пытанні гледачоў. **Максім Брагінец** (Сымон):

— Янка Купала на маю думку, перш за ўсё чалавек, які любіў сваю краіну. Ва ўсіх яго творах тая любоў знаходзіцца на пярэднім плане разам з любоўю да продкаў і людзей у цэлым.

**Дзмітрый Давідовіч** (Незнаёмы):

— Гэта спектакль пра тое, што калі будзем разрываць свой «дом» кожны ў свой бок, дык усё развáліцца. Мы павінны аб'яднацца, як сям'я і як народ, каб не забіць сваёй чалавечнасці. Купала гэта балюча адчуваў усёй душою і сэрцам.

**Алёна Баярава** (Марыя):

— Самае галоўнае, каб мы былі з'яднаныя як сям'я і як нацыя.

Адзін з гледачоў — **Яраслаў Макаль**, супрасльскі дыякан:

— Гэта п'еса пра любоў да зямлі.

Галоўны дырэктар РТБД **Уладзімір Карачэўскі**:

— Калі не будзе павагі да сваёй зямлі, усё кончыцца. Гэты спектакль нікога ў Беларусі не пакідае абыякавым. Я таксама заўважыў хваляванне сярод гледачоў у Беластоку.

Настаўніца-пенсіянерка **Люба Харкевіч**:

— Янка Купала пытаўся, чаму існуе такая розніца паміж простым, бедным чалавекам і багатым, і яму было балюча.

**Максім Брагінец**:

— ... Таму што сам адтуль выйшаў.

**Уладзімір Карачэўскі** падчас прэс-канферэнцыі яшчэ ў першы дзень выступленняў, кажучы аб далейшым супрацоўніцтве паміж двума тэатрамі, абвясціў:

— Я спадзяюся, што ў наступны раз мы пакажам у Беластоку таксама спектаклі паводле драм маладых беларускіх аўтараў.

**Гастролі РТБД адкрылі — як кажуць на афіцыйнай мове — новую, больш шырокую перспектыву на польска-беларускае супрацоўніцтва ў галіне тэатра і неўзабаве можна будзе разлічваць на новую яго якасць. Гэта, несумненна, вынік намаганняў цяперашняй дырэктаркі драмтэатра імя Вянгеркі і яе ўспрымання таго, як павінен працаваць тэатр у гэтым вымярэнні ў падляшскай сталіцы. Гэта таксама ўплываецца ў актывізаваныя апошнім часам больш шырокія культурныя мерапрыемствы ў дачыненні да Беларусі Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Падляшскай маршалкоўскай управы. Шкада толькі, што падчас выступленняў страшна падводзілі асвятленне і гук. Не хапіла таксама некаторых атрымальнікаў спектакляў, якія па-майстэрску прадстаўляюць словы беларускага паэта — напрыклад моладзі з ліцэя і гімназіі з Гайнаўкі (была затое група ліцэістаў і педагогаў з Бельскага белліцэя). Вядомы тэатральны крытык Тамаш Дамагала з Варшавы, які вёў сустрэчы з мінскімі артыстамі з цікавага, польскага і крыху інтэлектуальна правакацыйнага пункту гледжання, занадта часта дэманстраваў няведанне тэмы, рабіў уражанне непадрыхтаванага, каб не сказаць далёка незарыентаванага, што часам выклікала сярод гледачоў і артыстаў бездапаможныя ўхмылкі спачування.**

*Пра выставу «Янка Купала і тэатр» і сустрэчу з Андрэем Масквіным — праз тыдзень.*

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Паэзія яднае людзей



Сёлета адзначаецца 15-годдзе Сусветнага дня паэзіі ЮНЕСКА ў Польшчы, арганізаванага ад пачатку рэдакцыяй «Паэзіі сёння». Ад 2001 года — гэта адно з найбольшых і найбольш прэстыжных літаратурных мерапрыемстваў у свеце. Іх дэвізам з'яўляецца распаўсюджванне польскай паэзіі ў свеце і сусветнай у Польшчы, між іншым назначанне літаратурных узнагарод «нестандартным паэтам» у выглядзе тамоў іх вершаў на польскай і англійскай мовах, узнагарод для перакладчыкаў. Адным з першых лаўрэатаў узнагароды ЮНЕСКА былі кс. Ян Твардоўскі, Эрнест Брыль. Запрашаюцца на мерапрыемствы аўтары з Еўропы і Азіі, выдаюцца



іх кнігі, а пасля выдаюцца тутэйшыя аўтары на іншых мовах амаль з усяго свету. «Паэзія сёння» выдала, між іншым, кнігу перакладаў беларускіх аўтараў «Wiatr od Niemna" — пераклады на польскую мову беларускіх аўтараў пачынаючы ад XIX стагоддзя да наймалодшага пакалення і «Размовы з паэзіяй» — вершы 13 сучасных польскіх паэтаў (у супрацоўніцтве з Домам-Музеем Адама Міцкевіча ў Навагрудку), сярод якіх былі Ян Леанчук і Міра Лукша з Беластока і Адам Сяменчык з Гарадка. У часопісе «Паэзія сёння» друкаваліся пераклады, між іншым, Віктара Шведа, Міхася Андрасюка, Лідзіі Маліноўскай, Яна Чыквіна, Міры Лукшы, Віктара Стахвюка і паэтаў з Беларусі. Сёлета прэзентавалі кнігу «Масты» — двухмоўную анталогію 11 польскіх паэтаў і 10 з Санкт-Пецярбурга ў перакладзе, між іншым, Міры Лукшы. Выйшлі таксама тры тамы: Крыстыны Гадлеўскай, Марлены Зынгер (якой тэксты перакладаліся таксама на беларускую мову) і Фрыдэрыка Расакоўская-Лойда з Лондана — нестандартнага паэта, якога вершы таксама існуюць ужо ў беларускай версіі. Прадстаўлены былі таксама брэсцкія творцы Люба Красеўская і Анатоль Крэйдзіч, якія прывезлі на свята ансамбль «Рамонкі» з Брэста, і Марына Панішава. Запрошаны на мерапрыемства былі таксама Міра Лукша і лэмкаўскі паэт Пэтро Мур'янка (Траханоўскі), якія выступілі з творамі на роднай мове. Галоўным госцем быў Нікалае Марэш, дыпламат, перакладчык, паэт, узнагароджаны персценем з Арлом і сёлетняй узнагародай міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы за пераклады. Паэтычна-музычныя канцэрты, апрача Варшавы, адбыліся ў Астралэнцы, Жырардаве, Яблоннай, Апінагуры і ў Сташаве.

(лук)

ШПІТАЛЬНЫЯ БЫЛІ

# Маўклівыя пытанні

— Бабу Зіну прывезлі ў шпіталь апоўначы ў Вялікую суботу. Нічога спецыяльнага з яе здароўем не адбывалася. Папросту дзеткі пазбыліся непажаданага ў святочныя дні госця. Вось табе і Пасха. Хату папрыбіралі, у царкву схадзілі, разгавіліся, усё як паложана, усё як у людзей. А баба Зіна давай да сястронкі ўцякаць. Начамі і днямі яе пільнавалі, шукалі па шпітальных закавулках. Ноччу медсястра пакінула аддзяленне, каб дапамагчы больш загружаным абавязкамі сяброўкам. На бабу Зіну не было лякарства. Пасля трэцяй начной спробы развітання з аддзяленнем прывязалі яе спецыяльнымі паясамі да ложка.

— Мацер Божая, ратуй! — крычала тады на ўвесь шпіталь бабуля. Калі выпісвалі яе дахаты, вельмі хацела застацца.

— Ты дзякуй Богу, што не засталася ў прафесіі, — кажа Лідка — сяброўка па школьнай парце з медыцынскага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Лідка вельмі сумленная і працавітая жанчына. Медыцынскую службу нясе на інфекцыйным аддзяленні бельскага шпіталя. Клапоціцца і перажывае за кожнага са сваіх пацыентаў.

Прызнае, што прафесія медсястры надта няўдзячная. Неадночы каштавала і іншага хлеба.

— Усё-такі тут лягчэй, чым пры скрынках з півам у маркеце «Аргелан».

Пасля апошняй шматгадовай разлукі з медыцынай прыйшлося ёй аднаўляць кваліфікацыі. У рамках пакуты за здраду прафесіі некалькі месяцаў працавала дарма. Сяброўкі — нешчаслівыя медсёстры — загрузілі яе ўсімі сваімі няўдачамі. Столькі цярпення і зняваг тады яна спазнала.

— Пазіцыя медсясцёр сапраўды кепская. Ніхто нас не паважае і мы сябе не паважаем. З ліцэнцыяцкім дыпломам плацяць мне «на руку» 1600 злотых у месяц. Значыць, зарплату павысілі на 50 злотых. А столькі ж грошай і часу я патрацiла. Усё коштам сям'і і ўласнага здароўя. Завея, холад, зрывалася, як той дурань, у пяць гадзін раніцы ў той Беласток, сядзела ад цямна да цямна ў набітай студэнтамі зале. Каб не заснуць і не замерзці, брала з сабой тэрмас з гарачай кавай. І толькі 50 злотых больш. Званне магістра рабіць зусім не аплачваецца, папросту фінансава гэта мне ніколі не апраўдаецца. Па прычыне недастатковай колькасці персаналу працы ў шпіталі заўсёды шмат. Калі справішся са сваімі абавязкамі, ідзеш дапамагаць на іншыя аддзяленні.

Медсястра апякуецца хворымі, запаўняе кучу дакументаў. А тых з году ў год становіцца больш. Усё на камп'ютары. Дзякуй Богу, Лідка яшчэ не старая і з камп'ютарам не-



як спраўляецца, але яе сяброўка ў амаль пенсіённым узросце ўжо не. Была на камп'ютарных курсах, але нічога не атрымалася. Старасць. За дапамогай звяртаецца да малодшых. Горш, калі застаецца адна. Тады хоць ты сядзь і плач.

— Зайздрошчу шпітальным прыбіральшчыцам, — кажа Лідка. — Памыюць падлогу і ідуць дахаты. Зарабляюць толькі 200 злотых менш чым медсёстры. Я працу бяру з сабой дахаты. Думаю, перажываю. Такі час настаў, што ніколі не ведаеш, што цябе спаткае. Бывае, што сям'і пацыента не спадабаешся. Не дай Бог, калі што каму станецца. За ўсё адказваеш галавой. Як тут пенсіі дажыць? Хто яе дачакаецца? Мабыць, на калясцы па шпіталі прыйдзецца ездзіць, пацыентаў даглядаць. Штораз мацней стамляюць начныя дзяжурствы. А што далей будзе, страх падумаць.

Лідка вельмі скептычна ставіцца да ўсякіх спроб паляпшэння прафесійнай пазіцыі.

— Няма салідарнасці паміж нешчаслівымі медсёстрамі, таму нічога ў нас не атрымаецца.

Апошні пратэст медсясцёр, званы «Маршам маўчання», прайшоў 23 красавіка. Чаму, жывучы ў Еўрапейскім Саюзе, зарплата медсястры ў чатыры разы ніжэйшая чым, для прыкладу, у Нямеччыне? Чаму перагружаюць абавязкамі, а маладых у прафесіі як на лякарства? — маўкліва пыталі кіруючых краінай нешчаслівыя жанчыны.

Бельскі шпіталь да «Маршу маўчання» не далучыўся.

— На апошнім сходзе сказалі, што грошай для нас няма і не будзе, — кажа сястра Бажэна, якой ужо за 50 гадоў. — Чаго ж тады пратэставаць? Усе маладыя параз'язджаліся за працай за мяжу. Хто змог, перайшоў у прыватныя клінікі. Хто тут прыйдзе? Хіба толькі дурань альбо дзе-якія ўкраінцы.

Амаль 60-гадовая Барбара дзяжурыць ледзь трымаючыся на нагах. Пухліна на шыі, прастуда. Магчыма, заразілася ад сваіх пацыентаў. Кульгае ад пацыента да пацыента, так задніца баліць. Унутраны гемарой. Зышла ўніз да доктара. Прыняла абязбольваючую капельніцу і назад да хворых. Няма каму яе замяніць, няма бальнічных ліcткоў. Яна таксама не верыць у ніякія пратэсты.

— Стану пратэставаць, выкінуць з працы, а тады што?

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Не ўсім роўна

„Яшчэ раз падсунуць мне гэты шпітальны сняданак, а праз акно выскачу", — горка іранізуе гледзячы на талерку 19-гадовая Наталька. Пакапрызіць крыху, але і так, як заўсёды, паслухмяна з'есць усё да апошняй крошкі.

Лыжка паштэту з бляшанкі, кубік масла і дзве падсушаныя лусты бальтонаўскага хлеба. Магчыма, малочны суп. Перспектыва на паляпшэнне здароўя на такой дыеце мізэрная. Добра, калі пра хворага клапоцяцца сябры ці сваякі, якія штодзень даносяць свежую порцыю хатняй, паўнавартаснай ежы.

Не ўсім роўна. Наталька паходзіць са шматдзетнай сялянскай сям'і. Як на свой узрост вызначаецца яна высокім эмацыянальным развіццём. Выхаваная ў пачуцці адказнасці за сям'ю, гаспадарскую працу і кожную залатоўку з сямейнага бюджэту. Бацькі стараюцца як могуць, але не заўсёды хапае, каб наесціся дасыта. У шпіталь, апрача шчырай і моцнай сямейнай любові, прывозяць ёй некалькі бутэрбродзікаў з надта тонкімі, амаль незаўважальнымі кусочкамі смажанай курынай грудзінкі. У надзьмутых разрыхляльнікамі французскіх булках больш паху, чым смаку. Ніякага масла, ніякай агародніны.

Наталька вучыцца ў тэхнікуме харчавання і гастранамічных паслуг, у будучыні хоча працаваць дыетэтычкай. Неўзабаве пачынае месячную практыку ў рэстаране. Восем гадзін у дзень з адным перапынкам на абед. За працу ніякіх грошай не атрымае. Мае права толькі да талеркі супу. Немагчыма маладому арганізму пратрымацца цэлы дзень на цяжкай фізічнай працы толькі за талеркай супу. Дзяўчына збіраецца пайсці да дырэктара са скаргай, каб той прызначыў практыкантам поўны абед з дзвюх страў.

Любоў да кухні Наталька пераняла ад мамы. Вельмі любіць яе хатнія макароны, якія плаваюць у курыным булёне з вялікай колькасцю тоўста нарэзанай моркаўкі. У мамінай кухні цэніць спалучэнне традыцый з сучаснасцю. Аблізваецца таксама на ўспамін хатніх пірагоў. У іх падрыхтоўцы прымала ўдзел з маленства. Будучы пяцігадовай дзяўчынкай, кідала ў міску кампаненты, мяшала іх, пад'ядаючы пры нагодзе сырое, але салодкае цеста.



У кухні часта гаспадарыла бабуля. Не даспадобы Натальцы былі бабуліны стравы, надта цяжкія, вясковыя. Найчасцей гэта было мяса смажанае ў вялікай колькасці тлушчу, бульбяныя клёцкі і абавязкова густа звараная капуста без ніякіх дадаткаў. Смакавала толькі бабулінае пячэнне „праз машынку".

Цяпер дзяжурства пры гаршках пераняла Наталька. Заядаецца агароднінай. Для яе страва без агародніны гэта не страва. Рыхтуе абеды, пячэ пірагі.

— Хатні пірог, у параўнанні з набытым у краме, гэта шэдэўр, — сцвярджае юная гаспадыня.

У школе даведалася як зрабіць сапраўдны кісель.

— У краме купляем толькі парашок, які мяшаем з вадой, а сапраўдны кісель можна зробіць са свежых трускалак.

На тры порцыі кісялю спатрэбіцца:

— 250 г трускалак,
— 60 г цукру,
— 30 г бульбяной мукі (крухмалу),
— 500 мл вады.

Трускалкі разварыць, працерці праз сіта, дабавіць цукар. Бульбяную муку размяшаць з невялікай колькасцю халоднай вады і спалучыць з працертымі трускалкамі. Заварыць яшчэ раз мяшаючы, затым разліць у спаласканыя халоднай вадой місачкі.

Стравы спажываюць усе разам, бо — як кажа Наталька — гэта замацоўвае сямейныя сувязі.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Між зямлёю і небам


Царква ў Ячне

Чыгуначны прыпынак Ружанасток знаходзіцца, так мне прынамсі падаецца, у вобрубе вёскі Гарадзішчаны; ад прынынку да яе першых збудаванняў каля паўкіламетра. Назва вёскі падказвае яе верагоднае багатае мінулае, бо выводзіцца назва ад слова гарадзішча, а гэтае слова вядзе ў сівую сярэдневяковую мінуўшчыну. Мікола Гайдук трыццаць гадоў таму так быў пісаў пра гэтую мясцовасць: „Гарадзішча ўзвышаецца на стромкім паўднёвым беразе безыменнага ручая — левага прытока рэчкі Сідры. Гарадзішча тут завуць Замкам, Шведскімі валамі. Гісторыкі мяркуюць, што гэта рэштка адной са шматлікіх крэпасцяў з часоў Гарадзенскага княства. Хоць навуковаму свету гэтае гарадзішча вядомае ўжо амаль сто год, аднак яно ўсё яшчэ не дачакалася археалагічных даследаванняў. А ўжо па знешняму яго выгляду і знаходках можна сцвердзіць, што гэтая крэпасць была важным умацаваннем (памеры дзядзінца каля 60 на 50 метраў) у абарончай сістэме старажытнага Гарадзенскага княства. Мабыць, на высокім полі, што ад усходу прылягае да гарадзішча, знаходзілася паселішча, у якім жылі сяляне, рамеснікі, гандляры. Варта дадаць, што гарадзішча распалажана каля старажытнага тракту з Горадні на Візну. Крэпасць і паселішча пры ёй загінула, відаць, недзе ў XIII ст., калі землі Гарадзенскага княства сталі арэнай працяглых войнаў паміж гарадзенскімі, навагародскімі, літоўскімі і валынска-галіцкімі, мазавецкімі князямі з удзелам спачатку палавецкіх, а затым татарскіх ордаў. Пасля тут тапталіся не меней зніштажальныя крыжацкія „рэйзы” і ў выніку людскія паселішчы сталі надта ж рэдкімі. Усё ж пустэча на гэтых землях не запанавала, як таго хочуць некаторыя гісторыкі. Са значна бліжэйшага да нас часу захаваліся пераказы, паводле якіх на месцы сённяшніх Гарадзішчанаў была вёска Табароўшчына. Некалькі пакаленняў таму назад падчас пошасці (магчыма, эпідэміі халеры або тыфу) уся вёска вымерла”.

Тэкст Міколы Гайдука настолькі займальны, што хацелася б яго прывесці поўнасцю. Абмяжуюся, аднак, толькі некаторымі цікавінкамі. Да Першай сусветнай вайны шматлікія жыхары Гарадзішчан пакідалі родныя палеткі і цераз порты Гданьска і Кёнігсберга адпраўляліся ў Новы Свет — у Амерыку. Людзі эмігравалі масава — у Гарадзішчанах не было такой сям'і, з якой хто-небудзь не падаваўся б за акіян. У выніку такога эканамічнага бежанства здаралася, што ў хаце заставаўся толькі адзін малады чалавек — за гаспадара. Сусветныя войны і гаспадарчы крызіс паміж імі спынілі гэты працэс.

Аднак не пра ўсё тады Мікола Гайдук пісаў — такі быў час. „Газета Беластоцкая” вясной 1956 года інфармавала, што ў Гарадзішчанах адбыўся ўстаноўчы сход калектыўнага гаспадарства. Мужыкі рашылі заснаваць калгас. Аднак дзесяць дзён пазней адбыўся чарговы сход у Гарадзішчанах, на які ў гэты раз далучылася і жаночая „палавінка” вёскі. Жанчыны аказаліся непрымірымымі захавальніцамі традыцыі, устаноўленага вякамі грамадскага парадку...

— Zatłukę cię na śmierć, jak mi zaraz nie rzucisz tej spółdzielni! — крычала маці на сына.

— Mój też nie będzie w spółdzielni, zaraz go wypiszcie! — распараджалася сваім мужам іншая.

— Wyrzucę chłopa z domu! — дадавала чарговая.

Чаго ж гэта так рассярдзіліся гарадзішчанскія жанчыны, хаця павятовыя прапагандысты абяцалі вяскоўцам лепшае жыццё ў калектыве, у тым ліку механізацыю гаспадарчых работ?

— Мы не хочам лепш жыць, — адказвалі жанчыны. — Хто жыве на гэтым свеце, мусіць жыць бедна, бо так устанавіў Бог. Чым менш дастатку тут, тым больш шчасця будзе ў небе. Нам не трэба другога калектыву. Наш калектыў трывае стагоддзямі — гэта наш Касцёл. У гэтым калектыве ніколі не пасварымся з сабою, ніхто нікога не абдурыць, а ў тым вашым калектыве будзе толькі нянавісць і злосць. Цераз гэты ваш калектыў мы занядбоўваем свае абавязкі. Цяпер пост, а мы, заміж маліцца ў касцёле, мусім пільнаваць сваіх мужыкоў, каб не замарочвалі сабе галоваў гэтай спулдзельняй. Мафусаіл жыў 969 гадоў, хаця тады ніякай механізацыі не было...

Неўзабаве памянялася стаўленне ўлад да калектывізацыі і гарадзішчане зноў маглі саматужна заняцца пошукамі ўсё ж такі лепшага жыцця. Мікола Гайдук: „Як пры цары не было хаты, з якой хто-небудзь не падаўся б за хлебам у Амерыку, так цяпер не знойдзеш такой сям'і, дзе б нехта не закончыў вышэйшай або сярэдняй школы і не працаваў на адказнай пасадзе”.

Вёска Гарадзішчаны шчыльна прылягае да Ружанастока, дзе шырока вядомы санктуарый, які напэўна не аставаўся на абочыне агульнага грамадскага жыцця, у тым ліку і стаўлення да насаджвання пасляваеннай новай абраднасці. Калі я некалькі гадоў раней бываў у Ружанастоку, заўсёды можна было там пабачыць асобы ў манаскіх адзежах; сёлета мне гэта не ўдалося — санктуарый выглядаў пуставата. Пуставата было і ў крамах, што працуюць у абедзвюх мясцовасцях...

На гарадзішчанскай краме рэкламны банэр піва з беластоцкага бровара: „Żubr w Grodziszczanach się należy”. У краме былі дзве прадавачкі і ніводнага пакупніка. Калі я спытаў іх, ці гэта яны так аздобілі сваю ўстанову, даведаўся, што гэта зрабіла беластоцкая піваварная суполка. На краме ў Ружанастоку нічога кідкога не было, яна выглядала больш посна; пакупнікоў усярэдзіне таксама не было.

Чаму Мікола Гайдук папракнуў гісторыкаў? Бо іх бачанне сыходзіць з розных пунктаў гледжання, як у Купалавых „Тутэйшых”. Партал ружанастоцкага санктуарыя: „Kościół zbudowany przez Dominikanów w latach 1759-1785 był w ich ręku do 1846 roku. Później w posiadaniu księży diecezjalnych. Od 1866 do1915 r. we władaniu prawosławnym, w 1918 r. odzyskany przez katolików i w następnym roku został przekazany salezjanom. Dzięki ostatnim badaniom mgr Anny Czapskiej udało się ustalić, że w obrębie obecnego kościoła, w jego nawie poprzecznej, znajdował się pierwszy kościół (XVII w.), którego prezbiterium znajdowało się przy wschodniej ścianie, miedzy ołtarzem MB Różanostockiej i ołtarzem św. Jana Bosko. Jego długość łącznie z odkrytymi na zewnątrz fundamentami, wynosiła około 35 m, szerokość prezbiterium około 11 m”. Айцец Рыгор і матушка Антаніна Сосны пра тыя ж самыя даследаванні: „Na zlecenie Wojewódzkiego Konserwatora Zabytków w 1980 r. prof. Anna Czapska z Politechniki Warszawskiej prowadziła w Różanymstoku prace badawcze. Celem badań były podziemia klasztoru. Stwierdzono, że krypta pod głównym ołtarzem posiada grube mury ceglane. Rzut krypty jest zbliżony w kształcie do równoramiennego krzyża greckiego. Historycy pisząc o Różanymstoku nie wspominają o istniejącej tu wcześniej świątyni obrządku wschodniego, dla nich historia zaczyna się dopiero od 1659 r., od budowy kościoła katolickiego. Cerkiew wzniesiono z grubej cegły z ceglanym sklepieniem. Była to charakterystyczna dla XVI w. budowla z ołtarzem skierowanym na wschód. Być może jej pozostałością są wymienione wyżej fragmenty muru cerkwi zbudowanej przez Wasyla Tyszkiewicza?” Васіль Тышкевіч быў у 1558-1569 гг. падляшскім ваяводам. З праваслаўя перайшоў у кальвінізм; канверсія ахоплівала таксама храмы...

Апрача згаданага касцёла ў санктуарным комплексе ёсць яшчэ капліца; партал: „Kaplica Matki Bożej Wspomożycielki Wiernych o wymiarach 18 na 36 metrów zbudowana została w latach 1907-1915, w okresie gdy Różanystok był we władaniu przybyłych z Rosji mniszek prawosławnych. W 1920 r. Salezjanie przystosowali kaplicę do potrzeb prowadzonych przez siebie szkół. Był to początek kaplicy szkolnej. W czasie II Wojny Światowej Niemcy założyli tu magazyn zboża. Po wojnie Salezjanie przywrócili jej pierwotną funkcję, czyli kaplicę szkolną. Po zagrabieniu im w 1954 r. szkoły przez władze PRL kaplicę przeznaczono na magazyn. Nie remontowana sukcesywnie dewastowana kaplica przez 30 lat popadała w ruinę. Kaplice zwrócono Kościołowi w 1994 roku. Po trwających sześć lat pracach remontowych, staraniem salezjanów, kaplica znów może pełnić funkcje sakralne”. Апошні сказ сфармуляваны вельмі далікатна, бо ж і парог гэтага храма не надта ўтаптаны, хаця школьная моладзь у ружанастоцкіх школах яшчэ прысутная.

З Ружанастока падаўся я ў Ячна. У пачатку Ячна, з боку шашы, што між Дубровай і Новым Дваром, была калісь магілка савецкага афіцэра. Ёсць яна і цяпер, толькі ўжо час вытравіў надпіс на ёй, а след чырвонай зоркі ледзь бачны. Крыху далей тройка мужчын абнаўляла плот...

Калі б гэта быў нейкі амерыканскі ваяка, то напэўна інакш дбалі б пра яго магілу, — пракаментавалі яны маё зацікаўленне памяткай мінулай вайны. І расказалі пра ваенныя там падзеі... У Ячне ўжо былі савецкія разведчыкі, а немцы яшчэ трымаліся ў Ружанастоку. І вось савецкі лейтэнант рашыў выпрастацца, перадыхнуць. Палажыў ён бінокль на плот і разглядаўся па наваколлі. Салдаты сталі крычаць яму, каб хаваўся і ў той жа час стрэліў нямецкі снайпер, трапляючы таго лейтэнанта проста ў галаву; пахавалі яго на месцы...

Мужчыны рэкамендавалі мне пабачыць чарговы помнік, помнік савецкаму герою Георгію Кунавіну, які знаходзіцца недалёка суседніх Гарасімавіч. Паінфармавалі яны, што той помнік быў абноўлены, былі на ім устаноўлены новыя літары з латуні, але нехта іх павырываў. Калі зайшла гутарка пра Кунавіна, спытаў я субяседнікаў пра лёс гарасімавіцкай школы, названай яго імем.

— Там цяпер бровар, — пачуў я ў адказ.

Для мяне гэта была поўная нечаканасць, такая змена прызначэння адукацыйнага ў задуме аб'екта. Жыццё, аднак, не стаіць у месцы, мяняецца, і некаторыя рэлікты мінуўшчыны захаваць немагчыма. Мяняецца мясцовая дэмаграфія. Калісь, калі ўзводзілі мураваную школу ў Гарасімавічах, а было гэта ў 1954 годзе, не думалася пра абязлюдзенне вёскі. Цяпер жа з Ячна аўтобус забірае ў дуброўскую школу ўсяго двое дзяцей...

На лавачцы перад канцом вёскі сядзела пажылая жанчына, адпачываючы пасля закупкі харчавання ў нядаўна ад'ехаўшай аўтакраме. Ячна наведваюць чатыры аўтакрамы: дзве з Дубровы і па адной з Саколкі і Скеблева. На пытанне пра даволі вялікую вясковую святліцу адказала яна мне, што калісь ладзілі ў ёй не толькі забавы, але і вяселлі ды іншыя сямейныя мерапрыемствы, цяпер — памінкі і часам вясковыя сходы.

— А на асфальт, што вядзе да могілак, грошы даў Сава, — паінфармавала яна ўдадатак.

Не распытваў я, хто такі той Сава, бо інфармацыя падалася мне надта фальклорнай, быццам аповед пра шчодрага святога Міколу Мірлікійскага. Пакойніку, мабыць, павінна здавацца, што па гладкім як стол асфальце вядуць яго ў рай...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

**Ян ГРЫГАРУК,** ***Галады***

## Беласточчына

Ты, мая Беласточчына родная,
што між Бугам і Нарвай ляжыш.
Многа вёсак, мястэчак і горадаў.
Усё аддаў бы, каб толькі тут жыць.

На зямлі гэтай я нарадзіўся,
тут таксама радзілісь бацькі.
Па зямлі той хадзіць я вучыўся
і дзяцінства праводзіў дзянькі.

Тут пазнаў я народ беларускі,
яго родны фальклор, краявід.
Кожна кветка была мне тут блізкай,
кожны камень мне сябрам тут быў.

Песню лісця на белай бярозе
я пачуў на радзімай зямлі.
Дзе б не быў, а ўсе тыя дарогі
ў родны кут мяне зноў прывялі.

## Мая старонка

Ты мая родная старонка,
ты мая родная зямля.
Чытанкай, вершам, песняй звонкай
ад векаў славіцца яна!

Як кожны добры патрыёт,
люблю старонку родну я.
І я хачу, каб з году ў год
расла магутней усё яна.

І жыць каб лепш было людзям,
што ад вякоў на ёй працуюць,
рабочым усім, гаспадарам,
што чалавечы труд шануюць.

Няхай расце мая старонка,
няхай мацнее з году ў год,
і будзе добра ўсім, каб толькі
спакоем цешыўся народ.

## Каліна

Расцвітала ў лузе каліна,
Белым цветам пакрыла зямлю.
Вырастала ў маці дзяўчына,
да не знала пра долю сваю.

Птушкі гнёзды вілі на каліне,
прыляталі ўсёй чарадой.
Прыглядаўся хлапец на дзяўчыну,
Захапляўся ён свежай красой.

Прайшлі годы, старэла каліна,
не расла, ужо больш не цвіла.
Асталася самотнай дзяўчына,
не зазнала шчаслівага дня.

Не зазнала ні шчасця, ні долі,
пастарэла таксама яна.
Не кахала нікога ніколі,
назаўжды засталася адна.

## Мая чараўніца

Мы сустрэліся ў месцы вясёлым,
лёс нам даў дваім пабываць.
І стараліся разам у школе
родну мову сваю вывучаць.

Вельмі добрай была вучаніцай,
быццам хмарка па небе плыла.
Называла сябе чараўніцай
і такой сапраўды ты была.

Ты красою мяне захапіла,
чаравала ўсмешкай сваёй.
Адчуваў я, што мяне ты любіла,
і я марыў, што буду з табой.

З той пары мне ўночы не спіцца,
і я думаю толькі адно:
Чараўніца, мая чараўніца —
разарвала ты сэрца маё.

## Жураўлі

Апусцела ўжо ўсё навокал,
пажаўцелі палі і лугі.
Толькі ў небе высока, высока
зноў ляцяць і крычаць жураўлі.

Шлях любімы яны ўжо знаюць,
па якім прылятаюць да нас.
Цяпер зноў да сябе адлятаюць,
каб вясною вярнуцца да нас.

А ляцець ім далёка, далёка,
і ляцяць яны вузкім клінам.
Ды нікога не відна навокал,
толькі горы і мора адно.


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Песні пра птушак і новыя выканаўцы


Наталля Аляксюк


«Казка» з Гарадка


Гурт з Заблудава

Беластоцкі конкурс «Беларуская песня» быў як ніколі «вясновы». І гэта не толькі з-за цёплага надвор'я, якое ўрэшце да нас завітала. Шмат песень было прысвечаных вясновым птушкам і краскам, прыгожасць якіх мацаваў прыемны пах дранікаў са смятанкай.

— Мне вельмі падабаюцца такія песні, якія мы сёння спявалі, — кажа ўжо пасля выступлення Лена Сульжык з гарадоцкага гурта «Казка».

Заспявалі песенькі «Жаўранкі» і «Рамонак». Частку твораў спявалі сола або ў дуэтах. Сярод такіх спевакоў апынулася Лена. Дзяўчынка з малых гадоў вывучае ігру на піяніна.

— А якіх зараз іграеш кампазітараў?

— Ну... Баха, Моцарта...

— Хочаш стаць піяністкай?

— Думаю, што можа буду пісьменніцай, — адзначае Лена. — Пішу апавяданні для часопіса «Гарадоцкія навіны».

Лена вельмі любіць спяваць у «Казцы». Чаму? Бо іх навука не «ідзе ў лес». Яны выступаюць на ўсіх школьных святах. Гэта выдатна папраўляе настрой у дзяцей.

Па-вясноваму і загадкава выступілі дзеці з Заблудава. На агляд трапілі ўпершыню.

— Гэтыя дзеці не ведаюць беларускай мовы, — кажа спадарыня Ала Каменская, — бо яны не вывучаюць яе ў школе. У час падрыхтоўкі што і раз трэба было выпраўляць моўныя памылкі.

Гурт з Заблудава быў адзіным сярод астатніх удзельнікаў конкурсу. У іх мілагучным спеве было нешта «яснае», пазітыўнае. Невыпадкова.

— Гэтыя дзеці спяваюць у царкоўным хоры, — кажа спадарыня Ала. — Ім спадабалася прапанова заспяваць на беларускім аглядзе.

Таксама сярод знакамітых салістаў мы прыкмецілі Натальку Алексяюк з Тапалян (нядаўна мы друкавалі інтэрв'ю з Наталляй у «Зорцы»). Наталька — вучаніца славутага Юркі Астапчука, лідара беларускага гурта «Прымакі». Зараз выступала як прадстаўнік Гарадка. Наша сяброўка адчувала сябе на сцэне як рыба ў вадзе!

Агулам выступіла ажно 28 выканаўцаў у разнародных катэгорыях. Камісія ў складзе Гражына Валкавыцкая-Тамашук (старшыня), Мацей Муха і Марк Лаўрашук вылучылі найлепшых спевакоў. Сярод наймалодшых першыя месцы занялі Алесь Хаманюк і Юлія Анджаеўская, другія — Кацярына Васькоўская і Марына Місяюк, трэція — Анастасія Шарамэта і Марта Васькоўская. У катэгорыі класаў IV-VI першыя месцы атрымалі Адрыян Данілюк і Аляксандра Раманюк, другія — Наталля Алексяюк і Аляксандра Астапчук. Камісія першае месца прызначыла таксама дуэту Аляксандра Раманюк і Соня Такаюк. Сярод гімназістаў найлепшай салісткай стала Анна Стасюлевіч (з Новага Двара), а з ліку хароў першае месца атрымала беластоцкая «Вясёлка». Адзіны ў сваёй катэгорыі музычна-вакальны калектыў з праваслаўнай школы стаў лаўрэатам першага месца. Іх выступленне нечакана аказалася сенсацыяй агляду! Але пра гэта ў наступным нумары.

Беластоцкі раённы агляд сарганізавала Таварыства беларускай культуры 22 красавіка г.г. у памяшканні БГКТ.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



## Загадкі з роднай хаткі

**Між лугоў, лясоў удалеч**
**Стужка сіняя віецца.**
**І агонь яе не спаліць,**
**І ніколі не парвецца.**
**(Р....)**

**На ўсіх сцяблінах тонкіх**
**вісяць званочкі-гронкі,**
**Духмяныя, серабрыстыя.**
**Нібы расінкі, чыстыя.**
**(Л.....)**

**То дзіўнае дзіва,**
**каб з сямі нітак**
**быў пояс сатканы?**
**(В......)**

## УВАГА КОНКУРС! № 18-15

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 10 мая 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадкі № 13-15: лотаць, вераб'і. Узнагароду, кніжку "Найлепшы спявак у свеце", атрымала Агнешка Саўчук з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!**

*Алівія КУЗЬМА*
*ПШ у Нараўцы*

### *Кветка*

*У агародзе пад акном*
*Вырасла прыгожая кветка.*
*Хто ні ідзе,*
*Хто ні едзе —*
*На кветку спаглядае*
*І ў людзей пытае,*
*Што за хараство такое,*
*Як яно магло вырасці,*
*Хто яе даглядае і палівае?*
*Палівае яе доджык,*
*Сонейка даглядае.*

# КОЖНЫ АТРЫМАЎ СВАЁ

(эстонская казка)

Ішоў аднойчы вандроўнік. Падышоў ён да пышнага двара і пагрукаў у дзверы.

— Прыміце, добрыя людзі, на начлег! Ноч на дварэ, няма дзе падзецца.

— Ідзі адкуль прыйшоў, чалавеча, — груба адказала яму гаспадыня.

Чалавек нічога не сказаў і пайшоў далей. Пасля ён убачыў мініяцюрную хатку. Пастукаў у акенца і пытае:

— Ці не прымеце, добрыя людзі, пераначаваць?

— У нас цесна, але калі вам гэта не перашкаджае, заходзьце, калі ласка, — адказала ветліва гаспадыня.

Зайшоў вандроўнік у хатку і бачыць — там дзетак многа. Усе ў старых, парваных апранахах.

— А чаму твае дзеці ў такіх зношаных кашулях? — пытае вандроўнік.

— Бацька памёр, — адказала заклапочаная маці, — ледзь канец з канцом звесці ўдаецца.

Выслухаў яе словы вандроўнік і не сказаў ні слова.

Гаспадыня паставіла на стол вячэру і запрасіла госця паесці. Вандроўнік з'еў найменшы акрайчык хлеба і лёг на лаву адпачываць. Раніцай ён устаў, пакланіўся ўдаве і кажа:

— Дзякую за начлег. А цяпер паслухай, што я табе скажу: усё, што ты пачнеш рабіць з раніцы, будзеш рабіць да вечара.

І адправіўся ў дарогу. А гаспадыня зірнула на сваіх дзетак і вырашыла пашыць з кавалачка палатна хоць адну кашуліну. Перад тым схадзіла яна да багатай суседкі пазычыць мерку. Калі яна вярнулася ў хату, узяла апошні кавалачак палатна і стала яго мераць. Яна мерае-мерае, а кавалачак расце — канца не відаць. Цэлы дзень яна мерала свой «кавалачак» палатна і толькі вечарам пабачыла канец ды падумала: «Гэтага палатна для нас усіх да канца жыцця хопіць». Яна здагадалася, што пра гэта менавіта гаварыў ёй вандроўнік. Вечарам аднесла мерку суседцы і ўсё распавяла.

«Ах, чаму я гэтага валацугі не пусціла пад свой дах» — падумала суседка. Яна папрасіла свайго парабка, каб той дагнаў вандроўніка і прывёў да яе ў хату. Багацейка прывітала яго паклонам, запрасіла ў дом і паклала спаць у пуховую пасцельку.

— Адпачывайце, добры чалавеча, — сказала.

Вандроўнік пакарыстаўся гасцінай, пражыў ён у двары дзень, пражыў два, пражыў тры. А гаспадыня частуе яго аднымі фрыкасамі і ананасамі. На чацвёрты дзень адправіўся ў дарогу. Жанчына выйшла за ім, каб правесці. Ідзе падарожнік да брамы, нічога не кажа.

— Скажыце, добры чалавек, — пытае ўрэшце яго гаспадыня, — што мне рабіць?

Паглядзеў на яе вандроўнік і кажа:

— Усё, што пачнеш рабіць з рання, будзеш рабіць да вечара.

Гаспадыня толькі таго чакала. Яна ірванулася ў хату, схапіла мерку і давай мераць палатно на кашулі. І ад таго шчасця так моцна чмыхнула, ажно куры на панадворку паразбягаліся.

— Ап-чых! Ап-чых! Ап-чых!

Ні піць, ні есці не можа, нават адказаць на пытанне з ёй такога дзівоснага здарылася. І так праз цэлы дзень, пакуль не сцямнела...

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

*Зузанна КАРДЗЮКЕВІЧ*
*Грабоўка, ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## Сок

*Вымайструю пышны сок,*
*а з чаго?*
*з яблык,*
*з вішань,*
*не ведаю.*
*дадам бананы, гарбузы, маліны*
*Буру, буру, бум, бум*
*Ой, штосьць не так!*
*трэба дадаць соль!*
*дзве лыжкі, можа тры.*
*Дам чатыры.*
*Буру, буру, бум, бум*
*Фуй!*
*дадам шакалад!*
*Мама, ты паспрабуй.*
*Бле....*
*Дадам масла і цукар.*
*О, цяпер смачны сок.*




# Засявалі «Купалінку»

*На Фестывалі культур зайсёды гучаць беларускія песні. А калі на сцэну выйдуць стройныя хлопцы — гэта чыстая радасць не толькі для вушэй, але і вачэй. Гімназісты з беластоцкай «сямёркі» прасявалі «Купалінку» і «Каня», за што атрымалі гучныя воплескі і пахвалу публікі ды арганізатараў. Не дзіва, хлопцы з дзіцячых гадоў ходзяць у музычныя школы.*

*Міжшкольны «Фестываль культур», на якім школьнікі запрэзентавалі танцы і песні нацыянальных меншасцей, ужо чарговы раз зладзіла беластоцкая ПШ № 12 у пасляВелікодны тыдзень, 16 красавіка г.г.*

## Вершы Віктара Шведа

### Усім не дагодзіш

Разбіў Якаў калена
І праклінаў страшэнна.
Сказалі на выбрык ягоны:
— Ты не дарос да праклёнаў.

Маю такую я згадку:
Як плакаў пасля выпадку
Сказалі мне, сцвердзіў Якаў:
— Ты завялікі, каб плакаць.

### Бедненькі мой татка

Раздаў настаўнік сшыткі
З дамашняю працай.
— Табе хіба брыдка,
Павінен стыдацца.

Тут памылак куча,
Што чытаць аж гадка.
Кажа шэптам вучань:
— Бедненькі мой татка.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 14:

Шпак, Ясь, Оля, пасцілка, ролік, арт, бусел, сто, жураўель, клад, граблі, як, Ака. Шлях, акт, Ас, ружа, посуд, колер, сіла, Коцк, Лі, мера, ял, лак, касьба, старт, томік.

Узнагароды, каляровы алоўкі, выйгралі **Ігар Кардаш, Дыяна Хіліманюк, Бартак Чэмярыс, Мартына Чалаеўская, Клаўдзія Нікончук** з Нарвы, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Іаанна Рута, Агнешка Саўчук** з Пш № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | As | Sól / Ojciec | | | |
| Wiosna | Stół | | Sokół | | Ganek | | | Syn | Napór |
| Nos | | | | Galon / Tom | | | | | |
| | Kaczeńce | | | | | | | | |
| | Oddech | Koń / Za | | | | | | Bierz | |
| | Zamak | | | | | | Wio! | | |
| Punkt | | | | Komar | | | | | |

# Хведар Ільяшэвіч
## і Таварыства прыяцеляў беларусаведы




Беларускі паэт, гісторык, журналіст Хведар Ільяшэвіч (1910-1948) вучыўся ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя ад пачатку 1930-х гадоў. Падаваў вялікія надзеі як гісторык-навуковец. У 1931 г. група студэнтаў-беларусаў заснавала пры ўніверсітэце Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Створанае як навуковая арганізацыя, ТПБ не мела дастатковай колькасці падрыхтаваных для выканання статутных мэтаў сяброў. Толькі адзінкі са студэнтаў былі гатовыя да навукова-даследчай працы, а сярод іх і Хведар Ільяшэвіч.

Калі ў чэрвені 1932 г. у ТПБ утварылася гістарычная секцыя, весці яе даверылі Ільяшэвічу. Як сведчаць архіўныя дакументы, у яго было шмат ідэяў. Хведар разам з калегамі збіраўся вывучаць дакументы са збораў віленскага музея імя Івана Луцкевіча, пераглядаць старыя паперы ў праваслаўных царквах, ды рабіць публікацыі. Не дзіўна, што ініцыятыўнага Ільяшэвіча на гадавым сходзе таварыства 10 снежня 1933 г. абралі старшынёй (за год да гэтага ён адмовіўся ўваходзіць у кіраўніцтва „з прычын асабістага характару"). На гэтай пасадзе ён змяніў Станіслава Станкевіча. Разам з Хведарам у кіраўніцтва ўвайшлі студэнты Сяргей Сарока, Таццяна Мацьвеева, Чэслаў Будзька, Марыся Мілючанка. На той момант ТПБ налічвала каля 40 чалавек.

„Беларуская крыніца" пісала 25 снежня 1933 года: „Таварыства гэнае развіла за апошні час даволі шырокую дзейнасць. Яго працы скіраваны ў двух кірунках — збіранне навуковага матэрыялу, адносячагася да жыцця і творчасці беларускага народу, і інфармаванне грамадзянства аб зробленых доследах шляхам чытання рэфератаў". З дакладамі выступаў і Хведар Ільяшэвіч. Яшчэ 6 сакавіка 1932 г. ён прачытаў у Вільні рэферат, прысвечаны пісьменніку Ядвігіну Ш., а 5 сакавіка 1933 г. — „Друкарня братоў Мамонічаў у Вільні" (тэма яго будучай дысертацыі, якая выйшла асобным выданнем у Вільні ў 1938 г.), 3 снежня 1933 г. — „Новае ў справе друкарні Мамонічаў у Вільні", 25 лютага 1934 г. — „Беларускі лемантар з 1862 г.".

7 траўня 1933 г. ТПБ наладзіла „вечар паэтаў Заходняй Беларусі". Перад прысутнымі гучалі вершы Наталлі Арсенневай, Янкі Быліны, Міхася Машары, Міхася Васілька, Язэпа Вількоўшчыка і Хведара Ільяшэвіча. Хведар і сам прысутнічаў, але яго творы чыталі іншыя студэнты.

Старшынства Хведара Ільяшэвіча было кароткім. Браўся ён за працу з энтузіязмам, а пасля, здаецца, нават крыху расчараваўся. На пасяджэннях кіраўніцтва ТПБ старшыня выступаў з рознымі прапановамі па накірунках дзейнасці, а калегі іх звычайна „адфутбольвалі". У студзені 1934 г. Ільяшэвіч прапанаваў тэмы для гістарычных прац, але іншыя сябры кіраўніцтва палічылі яго план „нерэальным" з-за адсутнасці падрыхтаваных навуковых кадраў. Тады ж не быў падтрыманы яго варыянт заявы таварыства з нагоды рэформы беларускага правапісу ў БССР. У снежні 1933 г. Хведар прапанаваў арганізаваць „вечар беларускай мовы", каб там прадставіць дыялекты з некаторых раёнаў Заходняй Беларусі. Але і прафесар Эрвін Кашмідэр (куратар ТПБ), і Станіслаў Станкевіч зноў адзначылі „нерэальнасць" прапановы старшыні. І слушна. Сапраўды, у сяброў арганізацыі не было адпаведнай падрыхтоўкі для рэалізацыі гэтага складанага праекта.

Затое пры Ільяшэвічы была заснаваная бібліятэка таварыства (першым яе кіраўніком абралі Сяргея Сароку). Старшыня неаднаразова дэманстраваў прынцыповасць. Калі ў пачатку 1934 г. некаторыя сябры хацелі адправіць дэлегатаў на сход Саюза польскіх літаратараў, Хведар Ільяшэвіч заявіў, што нікога туды пасылаць не будзе. У пратаколе пасяджэння зафіксаваныя яго словы: „З інстытуцыяй-жа паланізатарскай мы супрацоўнічаць не можам".

4 сакавіка 1934 г. на агульным сходзе сяброў Таварыства прыяцеляў беларусаведы быў абраны новы старшыня — Віктар Войтэнка. Ільяшэвіч яшчэ нейкі час уваходзіў у рэвізійную камісію. Але чым бліжэй было заканчэнне навучання ва ўніверсітэце, тым меншая была яго актыўнасць. Хведару хацелася бачыць вынікі працы, але на выданне напрацовак сяброў таварыства не было сродкаў...

Ільяшэвіч атрымаў дыплом магістра філасофіі ў галіне гісторыі ў красавіку 1936 г. Што да Таварыства прыяцеляў беларусаведы, дык яно існавала ў віленскім універсітэце да пачатку Другой сусветнай вайны. Яго апошнімі кіраўнікамі былі Вітаўт Тумаш (1935-1936), Станіслаў Нарушэвіч (1936-1937), Антон Шукелойць (1937-1938), Мітрафан Смаршчок (1938-1939) і Тацяна Трафімава (1939).

**Сяргей ЁРШ**

Фотакопіі — са збораў Беларускага архіва-музея літаратуры і мастацтва (г. Мінск).

Пошукі і знаходкі

# Бежанец Першай сусветнай вайны
# Уладыслаў Чаржынскі

Пра выдатнага беларускага літаратуразнаўца, крытыка, перакладчыка і педагога з вёскі Стара-Каменная Сакольскага павета Уладыслава Чаржынскага (1897-1974) шукаю звестак шмат гадоў. Пра яго ўжо апублікаваў некалькі артыкулаў у „Ніве" (№ 20 ад 14 траўня 2006 года і № 47 ад 19 лістапада 2007 года), а таксама ў сваіх кнігах „З Беласточчыны" (Беласток 2008), „Беларуская Беласточчына" (Мінск 2008) і ў іншых выданнях.

У апошні час зноў адшукалася шэраг новых звестак пра гэтага таленавітага літаратара, які быў арыштаваны ДПУ БССР 26 чэрвеня 1930 года па справе „Саюза вызвалення Беларусі" і па пастанове Калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 года высланы ў горад Казань тэрмінам на пяць гадоў, дзе і пражыў да канца сваіх дзён.

Вядома яшчэ, што Уладыслаў Чаржынскі вучыўся ў Гродзенскай гімназіі, уваходзіў у Гродзенскі гурток беларускай моладзі. Але вясной 1914 года сябры гуртка хуценька раз'ехаліся па хатах, каб болей у Гародню не вяртацца. Пра гэта прыгадвала Зоська Верас у сваіх успамінах „Гродзенскі гурток беларускай моладзі" (Зоська Верас, *Я помню ўсё*, Гародня — Wrocław 2013, с. 23). Пара раз'ехаліся па хатах сябры гуртка таму, што пачыналася Першая сусветная вайна. Вярнуўся дахаты ў родную вёску Стара-Каменная Сакольскага павета і Уладыслаў Чаржынскі. Яму тады было 17 гадоў. Далей па ўсіх дакументах тры гады з жыцця сакольскага юнака кудысьці губляюцца, гэта — 1915, 1916 і 1917 гады. І толькі ў 1917 годзе Уладыслаў Чаржынскі разам з Генрыкам Матукам з Петраграда прыязджаюць у Менск. Магчыма, Генрык Матук быў земляком Чаржынскага. Яны сябравалі. Генрык Матук (?-1924) быў вельмі актыўным беларускім грамадскім дзеячам у Гародні. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ён паехаў у Петраград і стаў студэнтам. З ім перапісваўся Уладыслаў Чаржынскі. Матук запрашаў Чаржынскага ў Петраград, але яму не пашанцавала туды выехаць, бо хутка ўсю сям'ю Чаржынскіх адправілі ў бежанства. Чаму пра бежанства ён нідзе не прыгадваў — цяжка сказаць.

У 1915 годзе сям'я Чаржынскіх апынулася ў мястэчку Крычаў Магілёўскай губерні. Там на пэўны час яна спынілася. З Крычава Уладыслаў Чаржынскі дабіраецца да Петраграда. Ён ужо, відаць, ведаў з лістоў Генрыка Матука, што ў студзені 1916 года ў Петраградзе стварылася Беларускае таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны. Заснавальнікамі таварыства былі Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Часлаў Родзевіч, Аляксандр Ярэміч, Уладзімір Міткевіч. Таварыства аказвала дапамогу грашыма і рэчамі, адкрыла інтэрнаты для беларускіх студэнтаў і вучняў, дзіцячы прытулак, кравецкую майстэрню, выдавала лістоўкі з заклікам ахвяраваць грошы для бежанцаў, у тым ліку „пагалелым ад вайны беларусам памажыце!", наладжвала беларускія вечары. А яшчэ Таварыства падтрымлівала сувязі з Мінскім аддзелам Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, Беларускім нацыянальным камітэтам у Мінску, імкнулася пашырыць уплыў на ўсю тэрыторыю, дзе знаходзіліся бежанцы.

Як апынуўся ў траўні 1916 года ў Петраградзе Уладыслаў Чаржынскі — застаецца загадкай. Альбо яго заклікаў і абяцаў яму там дапамагчы сябра-зямляк Генрык Матук, альбо праз Мінскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф. 672, воп. 1, спр. 1, л. 243) захоўваецца анкета Уладыслава Чаржынскага № 1357 на рускай мове, якую ён запоўніў у 1916 годзе для Беларускага Таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны.

Давайце пачытаем:

Чержинский Владислав Викентьевич, 19 лет, из крестьян, д. Старо-Каменная, Красностокская волость, Сокольский уезд, римско-католического вероисповедания, белорус... І гэтак далей. Працытую ўжо ў перакладзе на беларускую мову: род заняткаў: выхавальнік рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі. Харчаваўся і жыў на кватэры семінарыі, дапамогу прасіў на падручнікі. А прыехаў у Петраград з мястэчка Крычаў Магілёўскай губерні 15 траўня 1915 года. У Петраградзе жыў па вуліцы Першай роты, 11. Адсюль вынікае, што Уладыслаў Чаржынскі ў траўні 1915 года быў залічаны студэнтам у рымска-каталіцкую духоўную семінарыю. Але чаму пра гэта ён ніколі не згадваў у сваёй біяграфіі, якую я публікаваў раней у кнізе „З Беласточчыны" (Беласток 2008, с. 278): „Пачатковую адукацыю я атрымаў у пачатковым народным вучылішчы, пасля заканчэння якога паступіў у Гродзенскую казённую гімназію, дзе і вучыўся да 1914 года. Матэрыяльную дапамогу атрымліваў ад старэйшага брата, які знаходзіўся на заробках у Амерыцы. У 1915 годзе мая радзіма была акупаваная нямецкімі войскамі. Я паехаў у Ленінград, дзе працягваў сваю адукацыю. У 1917 годзе я пераехаў у Менск...". Не згадвае пра месца вучобы ў Петраградзе Уладыслаў Чаржынскі і ў заяве ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, якая знаходзіцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф. 205, воп. 3, спр. 8909, л. 1-1 адв.): „Мой адукацыйны цэнз: Скончыў у 1918 годзе 7 класаў мужчынскай гімназіі Фальковіча й Зубакіна ў Менску. Мой практычны стаж: У 1918-1919 гадах працаваў як настаўнік у вячэрняй школе для дарослых, якая была арганізавана мною ж у м. Пасадцы Вілейскага павета. Адначасна з гэтым даваў прыватныя лекцыі ў розныя клясы сярэдняе школы...".

Прыехаўшы з Петраграда ў Менск у 1917 годзе Уладыслаў Чаржынскі разам з Генрыкам Матукам жылі ў беларускім інтэрнаце на Маскоўскім завулку, 1. Інтэрнат знаходзіўся над беларускай сталоўкай, якой у той час кіраваў Язэп Лёсік. Пасля ліквідацыі інтэрната, як прыгадвае Зоська Верас, Матук і Чаржынскі жылі на кватэры Змітрака Бядулі. Спалі яны на раскладзеных сенніках, матэрыяльнае становішча іх было даволі цяжкім...

У анкеце № 1/538 стыпендыяльнай камісіі БДУ ад 2 чэрвеня 1925 года (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (ф. 205, воп. 3, спр. 8876, л. 2-2 адв.) Уладыслаў Чаржынскі піша:

*Асноўны занятак да вайны 1914 года:* Вучыўся і працаваў на гаспадарцы.

*У час вайны і да рэвалюцыі 1917 года:* Вучыўся.

*Падчас польскай і нямецкай акупацый (падрабязна):* У часе нямецкай акупацыі працаваў у школе, у часе польскай акупацыі — у Беларускай вайсковай камісіі.

Як бачыце, пра бежанства і вучобу ў Петраградзе Уладыслаў Чаржынскі зноў нічога не напісаў. Ніколі Уладыслаў Чаржынскі не прыгадваў вучобы ў Петраградзе, бежанства і свайго перыяду жыцця з 1915 па 1917 гады і тады, калі жыў і працаваў у Казані.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Малады Уладыслаў Чаржынскі. Здымак з архіўных дакументаў. Друкуецца ўпершыню.

Лістоўка, выдадзеная Беларускім таварыствам у Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны, 1916 г.



Пагалелым ад вайны Беларусам памажыця!

Вайна нарабіла страты і крыуды вялікай палавіне Беларусі. Ад Пінску да Дзьвінску ідуць акопы разоры на зямельца Беларускай. А скрось калягоных акопаў, абапал іх, стырчма станцы разбітыя будынкі селянскія, або агнёмъ зьнішчаныя сёлы — вуглём ды попілам у вочы біуцца ды сьлёзы наверх націскаюць. Гаспадары разбегліся па сьвету і тамъ — адны у бядзе ды у нудзе на сьмерць нарвалісь ды у чужую зямельку із касьцьмі, із целам на вені залеглі, а другія яшчэбудзь з жыцьцём барукаюцца, алі шмат бяды зносюць, бо цяжэнька у цяперашнюю дарагоулю жыць. І хтож ім паможыць? Своеж людцы найперш павінны ім памагчы.

Ось 24 і 25 чэрвіня (Іюня)

будзіць збор грошы і адзежы па усім Пітраградзе — давайця добрыя людцы сколькі Ваша змога — хто зборшчыкам, а хто проста у КАМІТЭТ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА для помачы пацярпеушым ад вайны на Знаменскай вуліцы у д. № 36, кв. 54 (тэлеф. 253 49) штодзень ад 11 да 9 гадзіны веч.

Проша шчыра дапамагчы бядзе пацярпеушым Беларусам!

За шчырую падмогу — будзіць шчыры дзякуй.

**Пэтро Мур'янка**

**Надовшытко хтівбым**

*Хтівбым раз ішчы*
*матэрі руку*
*устамы вшануваты*

*Хтівбым раз ішчы*
*повісты жені*
*о вірній любовы*

*Хтівбым раз ішчы*
*соколятка мої*
*до сну вколысаты*

*Хтівбым раз ішчы*
*смык Ярославів выдіты*
*як вэдэ до бою*
*«Лэмковыну»*

*Хтівбым раз ішчы*

*Надовшытко хтівбым*
*плач нэмовлячый почуты*
*новонароджэной*
*моёй*
*Лэмковыны*

# Мурашка на лэмкаўскай ніве



**Пэтра Мур'янку, найвыдатнага сучаснага лэмкаўскага паэта, сустракаем на XV Сусветных днях паэзіі. У літаратурнай творчасці Пэтро Траханоўскі карыстаецца мастацкім псеўданімам Пэтро Мур'янка, значыць, мурашка. Напісаў калісьці казку «Мур'янчыско» (Мурашнік), і ад гэтага ўзялося. Са словам і музыкай — з сынам Ігарам і наймалодшай дачкой Юліяй (усе чацвёра ягоных дзяцей — музыканты) выконвае свае песні.**

Нарадзіўся ён 10 жніўня 1947 года ў Пархове на Ніжняй Сілезіі, куды перасялілі яго сям'ю ў рамках акцыі «Вісла». Але адзначае, што зачаты ён на радзіме — у вёсцы Бінчарова (Білцарова) каля Грыбова.

— На чужыну я два тыдні вандраваў у жываце маці, у быдлячым вагоне. Туга па роднай зямлі ўва мне ўсё трывала. Урэшце, пад канец сямідзесятых, з братам Яраславам вярнуліся мы на радзіму, але не ў Білцарову, а ў падгорліцкую Бялянку.

Цяпер жыве ў Крыніцы, на плябаніі царквы святога Уладзіміра, з'яўляецца псаломшчыкам, дырыжыруе хорам, кампануе музыку, таксама да рэлігійных песень. З'яўляецца таксама рэдактарам лэмкаўскіх календароў і часопіса «Бэсіда». Сярод продкаў Пэтро Траханоўскі мае Сэмэна Траханоўскага — у 1861-1867 гадах пасла на Краёвы сейм Галіччыны і яго народжанага ў Білцаровай унука Мяфода Траханоўскага (1855-1947) — выкладчыка настаўніцкай семінарыі ў Старым Сончы, выдаўца часопіса «Лэмко», аўтара падручнікаў для навучання лэмкаўскай мовы — яго заслугай было ўвядзенне гэтай мовы ў польскія школы.

— Я вучыўся з вашымі, беларусамі, у праваслаўнай духоўнай семінарыі. І пасля перакладаў Янку Купалу на лэмкаўскую мову, друкаваў у «Бэсідзе», — адзначае, убачыўшы маю кніжку для дзяцей «Падарункі». — І я такія падарункі раблю свайму народу.

Пасля семінарыі пайшоў у Хрысціянскую тэалагічную акадэмію, але яе не кончыў, вярнуўся да самотных бацькоў. Пасля смерці бацькі ў 1973 годзе вёў з маці гаспадарку ў 12 гектараў, а ў 1976 годзе вярнуўся на Лэмкавіну. У 1978-1982 гадах быў дырыжорам царкоўнага хору ў Санаку і настаўнікам рэлігіі, а з 1982 вядзе царкоўны хор у Крыніцы; вучыў тут рэлігіі і лэмкаўскай мовы — у пачатковай школе і гімназіі. Дэбютаваў як творца рэпартажам «По горах і долынах» у тыднёвіку «Наше слово» (1971). Першы том «Сухі бадыль» паказаўся ў 1983 годзе. Другі — «Jak sokół wodę z kamienia» выдалі «Іскры». Другі том быў двухмоўны — па-лэмкаўску і па-польску. Рэдактарка выдання апісвала рэакцыі людзей з выдавецка-кнігарскага асяроддзя — адны пыталіся, што гэта за такія лэмкі і што гэта за мова, іншыя выказваліся непрыязна: «і нашто гэта каму, хто гэта купіць!» Кніжная складніца адмовілася прыняць томік (дзве тысячы экземпляраў) у коміс, ніякая іншая кнігарня (апрача выдавецкай) не рашылася прадаваць вершы. Год пазней прафесар Рох Суліма ў тэксце «Лэмку, далёкі ўнуку...» пісаў: «Бэскід, упісаны ў Вялікую кнігу Humanitas, вызначае не толькі галоўную ідэю тома, але цэлы том чыніць запісам духовага самаведання «малога» народа, дзе адна паэма, адна песня яднае ў сабе звычайна цэлую гісторыю, усе справы і яе значэнне можа раўняцца няраз з цэлымі літаратурамі. Так узнікаюць і дзейнічаюць тэксты кананічныя, святыя кнігі малых супольнасцей, кнігі, якія паказваюць «пачатак» і вяшчаюць будучыню. Том Мур'янкі пранікнуты асновамі самаведання, пасмамі вялікай памяці... Пэтро Траханоўскі з'яўляецца лэмкам, ён з народу, які ў мінулым паўвеччы шматкроць гераічна даказаў сваю вернасць. І вернасць уласнага люду ён, як найвыдатны ягоны паэт, патрапіць выказаць у шматлікіх сваіх вершах, якія маюць — ужо сёння можна гэта сказаць — неміначую вартасць».



Пэтро Мур'янка з сыном Ігарам і дачкой Юліяй

Цяпер піша выключна па-лэмкаўску. З'яўляецца самай віднай асобай лэмкаўскага руху ў Польшчы, сузаснавальнікам Згуртавання лэмкаў, арганізацыі, якая змагаецца за прызнанне лэмкаў-русінаў за асобны народ.

— Маю душу лэмка, — кажа пра сябе Пэтро. — Я быў лэмкам, ёсць і застануся ім. Лэмкам, якога продку Івану Трухановычу польскі кароль Жыгімонт Стары зацвердзіў у 1531 годзе куплю салэцтва «in villa regia Bielczarowa".

У «Слове лэмка аб сабе і сваім народзе» пісаў: «Дзіўна была гэтая зямля, дзіўная краіна, лес, поле, рака. Не было там ані духаў, ані разбойнікаў. Не было Ізка пейсатага, ані каваля Сыдара. Вечарам ніколі не зайграў на скрыпцы Гнатко... Нават дзяўчаты ніколі не спявалі «В зэлэнім гаю дрэвко рубают»... Пра Білцарову ў нашым доме гаварылі штодзень. Бацька выпрагаў каня і маляваў словамі нашу вёску — мясцовых жыдоў, цыганоў... Неўзабаве пазнаў я з ягоных расказаў усіх людзей з нашай былой вёскі, кожнае тапаграфічнае месца. Мой тата вярнуўся з вайны ў 1946 годзе, у Білцаровай не застаў сясцёр, братоў, бацькоў — ад 1944 года былі ўжо яны на чарнаморскіх стэпах, у «дабравольную» рэпатрыяцыю пакінула Лэмкаўшчыну больш за восемдзесят тысяч людзей. Дзед, пакінуўшы вялікі дом крыты бляхай, сад, тры гектары лесу, з жонкай і дзецьмі паехаў у стэп. Дзед памёр ад голаду. Знайшлі яго са скібкай хлеба ў руцэ, якую трымаў для наймалодшага сына». У першы год мой бацька два разы на тыдзень ездзіў дваццаць кіламетраў у камендатуру УБ і мальдаваўся, што яшчэ не зрабіў ніякага злачынства. Мая маці Аляксандра была маёй першай настаўніцай рэлігіі. Спявала мне песні. А калі ўжо ўмеў пісаць, дыктавала малітвы...

З-за гэтых малітваў з Пэтра падсмейваліся вучні будаўлянага тэхнікума ў Вроцлаве, куды пайшоў вучыцца. Рабілі тады вучням рэвізіі, бо шукалі нейкай літаратуры і парнаграфічных здымкаў: «У мяне знайшлі малітвы пісаныя кірыліцай, што было горшым ад крамольнай літаратуры. Рашыў я тады вучыцца на «ігамосця» (папа). Прыняў мяне ўладыка Васілій. Я напісаў без ведама бацькоў прашэнне ў духоўную семінарыю ў Варшаве. Бацькі далі згоду...

З братам Ярaславам ехалі ў Білцарову як у рай, вядомы з расказаў і рысункаў бацькі. Увайшлі ў вёску. У іх роднай вёсцы не было ані аднаго лэмка, дарэчы, няма іх там да сёння. Дамы былі заняты асаднікамі. Іхні дом таксама ўжо змяніў уласніка, ужо чарговага. Яраслаў расплакаўся на від чужое ўжо хаты. Бацька ўсё задумваў, каб прадаць заходнюю гаспадарку і пашукаць зямлі ў горах. І з тымі марамі памёр, пахаваны на чужыне. У 1973 годзе Яраслаў Траханоўскі напісаў ліст Эдварду Герку ў справе зямлі лэмкаў. Жыў і працаваў тады ўжо ў Белянцы, на Лэмкаўшчыне. За гэта выкінулі яго з работы. Яраслаў вярнуўся на захад, працавалі яшчэ з братам на зямлі, якую бацька не паспеў быў прадаць, і прыехалі разам у Белянку. Яраслаў там вядзе хор «Лэмковына»... Пэтро ў сябе на плябаніі збірае карціны, старыя фатаграфіі, рэдкія выданні і вершы лэмкаўскіх паэтаў. Збірае матэрыялы для вялікай анталогіі лэмкаўскай паэзіі. Выдаў анталогію лэмкаўскай паэзіі для дзяцей «Мамо куп мі кніжку» — на 233 старонках сабраў вершы 29 паэтаў і многа народных твораў — кніжку патрэбную для навучання лэмкаўскай мовы. У дадатку да «Бэсіды» — «Лэмківскій ластівочкі» — пераклаў з беларускай мовы верш Якуба Коласа «Адлёт жураўлёў». Калісь Яцак Курань шукаў падручніка на лэмкаўскай мове і распытваў, ці лэмкаўская мова ёсць гаворкай ці мовай. Пэтро выдаў буквар «А я знаю азбуку». Рэдагуе таксама «Лэмківскій річнык», перакладае славянскую літаратуру на лэмкаўскую мову. Пэтро пісаў да гэтага часу выключна па-лэмкаўску, але пачаў пісаць сваю біяграфію па-польску — „Opisać życie", каб дайсці з ёю не толькі да лэмкаў. Каб зразумелі. Выдаў м.інш у Будапешце «Русынскій рэнэсанс. Антогія русынской поэзії другої половы ХХ сторочʼя», «Gold Is a Rusyn: An Anthology of Contemporary Carpatho-Rysyn Literarure» ў Блюмінгтоне ў Індыяне.

Пэтро Мур'янка прымаў удзел у шматлікіх кангрэсах, сімпозіумах, канферэнцыях і фестывалях, між іншым у Чэхіі, Славакіі, Украіне, Вугоршчыне, Сербіі, Нямеччыне, правёў шматлікія аўтарскія вечары ў польскіх, лэмкаўскіх, беларускіх і ўкраінскіх асяроддзях, у тым ліку м.інш. у Таронта, дзе прабываў на стыпендыі Таронцкага ўніверсітэта. Усюды прэзентуе таксама «спяваную паэзію», са скампанаванай сабою музыкай (больш за 50 песень) да ўласных тэкстаў, як і да тэкстаў іншых аўтараў даўняй і сучаснай лэмкаўскай літаратуры — з такой праграмай выступіў м.інш. на VI Фестывалі еўрапейскіх паэтаў у Мон-Нуар у Францыі.

Узнагароджаны між іншым узнагародай імя Эпіфана Дроўняка — Нікафара за творчасць, Сярэбраным крыжом залугі РП, узнагародай імя Васыля Турока-Гэташа (ад Сусветнай рады русінаў), адзнакай заслужаны дзеяч культуры РП, узнагародай імя князя Канстанціна Астрожскага і ордэнам св. Марыі Магдаліны.

— Што гэта для вас быць лэмкам?

— Усё!

— Як гэта «ўсё» развінуць?

— Думаю, што найтрапней сказаў прафесар Збігнеў Сяткоўскі, выдатны знаўца лэмкаў: «Пэтро Мур'янка — вядома, Пэтро Траханоўскі ў цывільным, пашпартным жыцці, з'яўляецца чалавекам па-за дылемамі. Мала хто выбраў гэта так ярка, так безумоўна, спальваючы за сабою ўсе магчымыя масты...». А пра сутнасць Лэмкавіны цяжка сёння пісаць, бо яна ад сямідзесяці гадоў акалечаная, вялікімі плошчамі амаль пустая. А як выказаць сутнасць лэмкаў, таксама акалечаных, але надалей заўзята змагаючыхся за выжыццё?!.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



Стары фотаздымак

# Беларусы ў Беластоку, 1940 год

Гэты здымак нядаўна перадаў мне грамадскі актывіст, былы настаўнік і спартсмен з Дзятлава Валерый Петрыкевіч — сын заснавальніка Дзятлаўскага краязнаўчага музея, заслужанага настаўніка Беларусі, краязнаўца Міхася Петрыкевіча (1913-1999). У 2013 годзе да 100-годдзя Міхася Петрыкевіча мне ўдалося сабраць і выдаць кнігу яго краязнаўчых артыкулаў „Народжаны вечнасць тварыць". Але тады, калі збіраліся матэрыялы пра Міхася Петрыкевіча, гэты здымак адшукаць не ўдалося. Ён знайшоўся толькі нядаўна. А цяпер — крыху гісторыі.

У 1940 годзе Міхась Петрыкевіч паступіў на літфак Беластоцкага педінстытута. Там ён сустракаўся з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Падчас вучобы ў Беластоку Міхась Петрыкевіч працаваў і настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці на абцасавай фабрыцы ў Беластоку. У сына Міхася Петрыкевіча Валерыя захаваўся дакумент, які пацвярджае, што на самой справе „гр-н Петрыкевіч Міхаіл Фёдаравіч падчас вучобы ў Беластоцкім педагагічным інстытуце па накіраванню Беластоцкага гарана з верасня 1940 года па красавік 1941 года працаваў настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці на абцасавай фабрыцы ў горадзе Беластоку".

Менавіта тады ў 1940 годзе ў Беластоку і быў зроблены гэты фотаздымак. Магчыма, гэта і ёсць група настаўнікаў, якая займалася ліквідацыяй бязграматнасці. На ім сфатаграфаваны студэнт Беластоцкага ўніверсітэта Міхась Петрыкевіч (стаіць у апошнім радзе трэці справа), а таксама беларускі пісьменнік Алесь Бажко (1918-2013), які сядзіць у першым радзе трэці злева. У другой палове 1930-х гадоў Бажко вучыўся ў Варшаўскай кансерваторыі. Удзельнічаў у стварэнні першых адзінак Войска Польскага на тэрыторыі СССР. Якім чынам у 1940-м годзе Алесь Бажко трапіў у Беласток і сфатаграфаваўся — застаецца загадкай. Вядома толькі, што ён быў не толькі літаратарам і журналістам, але і „стукачом". Магчыма, Бажко быў накіраваны ў Беласток, каб „кантраляваць" у 1940-м годзе беларускія справы. Цяжка адказаць. Сёння толькі дакладна вядома, што ён быў правакатарам, знаходзіўся ў СМЕРШы і ганарыўся гэтым. Бажко пастаянна псаваў жыццё Уладзіміру Караткевічу і Янку Брылю, шмат паскудстваў нарабіў іншым хлопцам і дзяўчатам з беларускіх пасляваенных падпольных арганізацый. З-за яго многія трапілі ў сталінскія лагеры і дамоў не вярнуліся.

Здымак, які сёння прапаную чытачам „Нівы", унікальны і загадкавы. Магчыма, чытачы на ім пазнаюць сваіх бацькоў ці дзядоў і бабуль. І тады мы разам зможам разгадаць яго гістарычную таемнасць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**





Шэсць гадоў таму ў нумары ад 12 красавіка 2009 года „Ніва" пісала пра старонку Таварыства беларускай культуры ў Літве, якая месціцца на сайце westki.info. З таго часу і ў жыцці таварыства, і ў яго віртуальным адлюстраванні адбыліся пэўныя змены. Так, летась у арганізацыі змяніўся старшыня, а некалькі гадоў таму з'явіўся сайт таварыства. Цяпер аб падзеях у жыцці беларускай дыяспары ў Літве мы можам даведацца, калі набярэм на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://tavarystva.lt.**

Новы сайт Таварыства беларускай культуры крыху прайграе таму, які адлюстроўваў ягоную дзейнасць раней — падаецца, што першы больш аздоблены і мае больш рубрык. Дарэчы, першапачатковы сайт таксама функцыянуе і на ім месціцца тыя ж самыя паведамленні, што і на новым. Разам з тым, абодва сайты абнаўляюцца даволі часта, хаця за красавік на момант напісання гэтага артыкула ніякіх паведамленняў яшчэ не з'явілася. Магчыма, уладальнікі сайта ўзялі невялікі тайм-аўт пасля святкавання Дня Волі.

Цяперашні сайт таварыства месціцца на платформе Wordpress і не змяшчае вялікай колькасці рубрык. Разам з тым бачна, што ягоныя ўладальнікі дбаюць пра выгляд інтэрнэт-прадстаўніцтва сваёй арганізацыі, і, нягледзячы на аматарскі ўзровень, стараюцца аздобіць яго мультымедыйна.

Сёлета Таварыству беларускай культуры ў Літве споўнілася 26 гадоў. На жаль, на сайце няма падрабязнага расповеду пра яго гісторыю, узрост якой перакрочыў чвэрць стагоддзя. Вельмі кароткая інфармацыя месціцца на старонцы „Пра нас", выйсце на якую мы знойдзем уверсе цэлага выяўлення. „У часы распаду Савецкага Саюза беларусы ў Літве ўпершыню за многія гады змаглі заявіць пра сябе. 4 лютага 1989 г. адбыўся арганізацыйны З'езд Таварыства беларускай культуры (ТБК), які абраў кіраўніцтва і склаў праграму дзейнасці. Усё пачыналася з нуля. Нічога, акрамя памяці, не захавалася. Дзякуючы самаахвярнай працы каманды аднадумцаў-пачынальнікаў, і ў першую чаргу Лявона Луцкевіча, Леаніда Караля, Міколы Рулінскага, Кастуся Шышэі і іншых Таварыства беларускай культуры пачало адраджаць беларускую культурную спадчыну ў Літве. Першапачатковая і галоўная мэта ТБК — адраджэнне, захаванне і развіццё беларускае культуры ў Літве", — распавядаецца ў тэксце пра таварыства.

Паколькі ТБК знаходзіцца ў Вільні, што ўсяго ў некалькіх дзясятках кіламетраў ад Беларусі, то натуральна, што яго сяброў турбуе стан з беларускай мовай і беларускай культурай на этнічнай радзіме. „Таварыства беларускай культуры ніколі не пагаджалася з тым, што ліквідацыя беларускасці — беларускай мовы і адукацыі — парушэнне элементарных правоў асобы ёсць унутранаю справаю беларускіх уладаў. Таму прыярытэтам дзейнасці ТБК таксама з'яўляецца змаганне за свабоду і незалежнасць Беларусі, за дэмакратычныя каштоўнасці, праўдзівую беларускую гісторыю і культуру", — гаворыцца далей у тэксце пра арганізацыю.

Але апошні год стаў для ТБК годам пераадолення ўнутранага крызісу, звязанага з неўспрыняццём часткі таварыства, магчыма нават большай, дзейнняў былога старшыні Хведара Нюнькі. Каб больш зразумець сутнасць канфлікту, які таксама адлюстроўваўся на сайце, варта зазірнуць на яго галоўную старонку і праслухаць аўдыёзапіс з агульнага сходу сяброў ТБК ад 17 студзеня.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**







Вечны запавет класіка літаратуры

# 115 гадоў з дня смерці Францішка БАГУШЭВІЧА

У сакавіку бягучага года споўнілася 175 гадоў з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры, а на гэтым тыдні 115 гадоў з дня, калі яго не стала. Францішак Багушэвіч пражыў 60 гадоў і сімвалізаваў сваім жыццём цэлую эпоху. Ягоная літаратурная і ідэйная спадчына сталася падмуркам ідэалогіі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

Францішак Багушэвіч нарадзіўся ў фальварку Свіраны непадалёк Вільні ў сям'і дробнай шляхты — Казіміра і Канстанцыі (у дзявоцтве — Галаўня) Багушэвічаў. Фальварак быў спадчынай маці. У перыяд паміж 1841 і 1846 гадамі сям'я перабралася ў спадчынны маёнтак Кушляны Ашмянскага павету, які належаў Багушэвічам з сярэдзіны XVIII ст. Продак паэта Антон Багушэвіч за 450 польскіх злотых «набыў маёнтак Кушляны або Мігуцяны» з сялянамі ад Кунцэвічаў. Перш чым прапісацца на Ашмяншчыне, род Багушэвічаў на пачатку XVIII ст. абжываўся ў Полацкім ваяводстве.

Дзіцячыя гады пісьменніка прайшлі ў асяроддзі блізкім да сялянскага. Пачатковую адукацыю Францішак атрымаў у Віленскай гімназіі. Там пасябраваў з Цітусам Далеўскім, Юльянам Чарноўскім, Вінцэнтам Віткоўскім, Канстанцінам Далеўскім, Зыгмунтам Мінейкам, якія сталі пазней актыўнымі ўдзельнікамі паўстання 1863 года. Пазней паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт на фізіка-матэматычны факультэт, аднак праз 2 месяцы быў выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Вярнуўся на радзіму, працаваў настаўнікам у вёсцы Доцішкі (цяпер у Вараноўскім раёне) у школцы, адкрытай уладальнікам маёнтка Аляксандрам Звяровічам. Багушэвіч — актыўны ўдзельнік паўстання 1863 года, быў паранены ў баі у Аўгустоўскіх лясах. Яго бацька, сястра і брат Апалінар дапамагалі інсургентам. Ратуючыся ад рэпрэсій, змушаны быў хавацца, а потым пераехаў ва Украіну. Там вучыўся ў Нежынскім ліцэі. Калі Багушэвічу выпісвалі атэстат, ён ужо знаходзіўся на службе ў Чарнігаве, потым працаваў судовым следчым у розных рэгіёнах Украіны.

У 1883 годзе каранацыя расейскага імператара Аляксандра III суправаджалася шырокай амністыяй: тысячы паўстанцаў, у тым ліку Багушэвіч, вярнуліся на радзіму. 25 сакавіка Францішак Багушэвіч з жонкай Габрыеляй з дому Шклёнікаў, мінчанкай, з якой узяў шлюб раней, вяртаецца ў горад сваёй маладосці — Вільню. Сям'я мела дачку Канстанцыю і сына Тамаша Вільгельма. Працаваў у судовай палаце. Асноўнымі яго кліентамі былі сяляне і гарадская бедната. Пісаў артыкулы, менавіта ў віленскі перыяд разгарнулася яго літаратурная і публіцыстычная дзейнасць.

Дарункам лёсу для Францішка Багушэвіча была спадчына, атрыманая ім пасля смерці варшаўскага сваяка Тадэвуша ў 1896 годзе. Паэт здолеў разлічыцца з пазыкамі, адбудаваць нанова занядбаную бацькоўскую сядзібу ў Кушлянах. У траўні 1898 года Багушэвіч напісаў заяву на фактычнае вызваленне ад абавязкаў прысяжнага паверанага пры Віленскім акруговым судзе. Ён кінуў службу ў царскім судзе, дзе наспеў востры канфлікт з начальствам, каб заняцца творчасцю. Пасля звальнення жыў у Кушлянах (Смаргонскі раён), дзе і памёр 28 красавіка 1900 года. Пахаваны ў вёсцы Жупраны на могілках паблізу мясцовага касцёла.

Нам незабыўны Мацей Бурачок (адзін з псеўданімаў паэта) пакінуў запавет на ўсе часы: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі».

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**

# Нерэнтабельнае выданне

У сакавіку 2013 года ў Чаромсе выйшаў першы нумар гміннай газеты „Голас Чаромхі", якія друкаваўся ў друкарні A-TRONIC у Белай-Падляшскай тыражом 700 экземпляраў. Выданне, у форме журнала, шыкарна афармленае. Шмат здымкаў з гмінных мерапрыемстваў і тэксты мясцовых аўтараў аб праблемах і дасягненнях лакальнай грамадскасці, затым крыжаванка на тэму ведаў аб гміне. У 2013 годзе былі выдадзены чарговыя нумары: № 2 — 15 ліпеня, № 3 — 31 снежня і ў наступным годзе № 4 — 24 чэрвеня 2014 г. Газета распаўсюджвалася бясплатна ў салэцтвах, а ў фармаце ПДФ была даступна на сайце Чаромхаўскай гміны. Варта адзначыць, што „Голасам Чаромхі" № 1 на сайце цікавілася 646 інтэрнаўтаў, затым адпаведна: № 2 — 783, № 3 — (з каляровым календаром на 2014 год) — 1347 і № 4 — 360. І гэта ўсё. Выдаванне газеты было ініцыятывай войта мінулага склікання Юрыя Шыкулы.

Пасля мінулагодніх самаўрадавых выбараў на пасаду войта вярнуўся Міхал Врублеўскі і так мне пракаментаваў спыненне выдавання „Голасу Чаромхі":

— Выдаванне „Голасу Чаромхі" нерэнтабельнае. Для гміны гэта надта вялікі выдатак. Гміна заключыла дамову з рэдакцыяй двухтыднёвіка „Весці падляшскія". Яе выдаўцы пастаўляюць нам некалькі дзясяткаў экземпляраў кожнага нумара. Газету ў гміне можна ўзяць бясплатна. Гэта каляровае выданне, у якім змяшчаюцца тэксты не толькі аб падзеях у Чаромхаўскай гміне, але і ў гмінах Гайнаўскага і Бельскага паветаў.

Такія эканамічныя абгрунтаванні пачуў я ад кіраўніка чаромхаўскага самаўрада. Іншай думкі Юры Шыкула:

— Мы парвалі кантакты з „Весцямі падляшскімі" таму, што незаўжды ў газеце друкаваліся тэксты аб нашай гміне. А чарамшан цікавяць будні лакальнай грамадскасці і дзеянні самаўрада. Таму мы рашыліся выдаваць „Голас Чаромхі" для сваіх жыхароў. Якую кампенсацыю выплачвае зараз гміна рэдакцыі за бясплатны двухтыднёвік не магу сказаць. Пра тое ведаюць войт і галоўны бухгалтар.

Столькі каментарыяў. Ацэнку фактаў наконт рэнтабельнасці выданняў пакідаю мясцовай грамадскасці.

**Уладзімір СІДАРУК**



# Гміннае апытанне

Гміна Чаромха прыступіла да апрацоўкі „Плана нізкаэмісійнай гаспадаркі" дзеля хадайніцтва за еўрасаюзныя датацыі ў перспектыве фінансавай стратэгіі 2014-2020 гг., якія прызначаюцца на інвестыцыйныя задачы ў галіне, між іншым, транспарту, будаўніцтва, прасторавай гаспадаркі, забеспячэння ў цяпло і электраэнергію, гаспадаркі нечыстотамі. Дарадчыкам пры апрацоўцы плана з'яўляецца фірма EkoExpert Doradztwo Ekologiczne i Gospodarcze Sp. z o.o. у асобе кансультанта Малгажаты Міхалевіч. Апытанне тычыцца стану жылых кватэр, вонкавага і ўнутранага іх ацяплення, абагравання, забеспячэння ў цёплую ваду і газ, кубатуры абаграваных памяшканняў. У апытальніку пытаюць яшчэ якімі сродкамі транспарту карыстаецца ўладальнік маёмасці, колькі ў год расходуе паліва на патрэбы абагравання і электраэнергіі. У канцы ставіцца пытанне: ці ўладальнік маёмасці зацікаўлены ўдзельніцтвам гміны ў абмежаванні эмісіі вуглекіслага газу праз замену крыніцы цяпла на нізкаэмісійнае (новыя абагравальныя печы, сонечныя калектары)?

Як аргументуе войт, добра распрацаваны план дазволіць гміне і жыхарам атрымаць фінансавыя еўрасаюзныя і айчынныя датацыі з мэтай паляпшэння якасці паветра ў выніку дзеянняў у сферы аднаўляльных крыніц энергіі, ацяплення будынкаў, а таксама паляпшэння энергетычнай эфектыўнасці праз замену традыцыйных кацельняў на нізкаэмісійныя.

Ці апытанне дапаможа здзейсніць гмінную задуму, цяжка сказаць. На маю думку, усё залежыць ад асоб, якія робяць апытанне.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Наша спадчына — мова матчына



Злева: Аляксандр Сяліцкі і Мікалай Сачык

Трэцяга красавіка 2015 года ў мясцовым Доме культуры, спорту і рэкрэацыі горада Кляшчэлі адбылася сустрэча прадстаўнікоў Камянецкага раённага грамадскага культурна-адукацыйнага аб'яднання «Спадчына» з бургамістрам Кляшчэль Аляксандрам Сяліцкім і дырэктарам Комплексу школ Славамірам Трашчоткам.

Дэлегацыю з Беларусі ўзначаліў старшыня Высокаўскага гарвыканкама Мікалай Сачык.

Падчас сустрэчы для вучняў і настаўнікаў польскай установы адукацыі былі перададзены падручнікі і кнігі, а для самых маленькіх — аўдыёказкі і мультфільмы на беларускай мове. Таксама абмеркаваны дасягнутыя рэзультаты шматгадовага супрацоўніцтва і планы на будучыню.

Дырэктар Славамір Трашчотка выказаў надзею, што такія адносіны ў будучым павінны садзейнічаць стварэнню новых умоў для вывучэння польскімі беларусамі роднай мовы, нацыянальнай гісторыі і культуры, а таксама дапамогуць у падрыхтоўцы і правядзенні сумесных культурных і адукацыйных мерапрыемстваў як у Польшчы, так і ў Беларусі.

У сваю чаргу Аляксандр Сяліцкі адзначыў, што наладжанае супрацоўніцтва з горадам Высокае, якое ён намераны працягваць і далей, дапаможа вывесці беларуска-польскае культурнае ўзаемадзеянне і грамадскае жыццё беларусаў Падляшша на новы ўзровень.

Спадзяемся, што ў далейшым пры адпаведнай падтрымцы з боку адміністрацый абедзвюх краін беларуска-польскае прыгранічнае супрацоўнцтва дасягне новых вяршыняў...

**Старшыня КРГКАА „Спадчына"**
**Людміла ДУДАР**

Здымкі АЛЯКСАНДРА ШЧУРАВА

# 03.05 — 09.05

**(22.03. — 20.04.)** Калі ты ў трывалай пары, увесь май вельмі добры. Зможаш пайсці на кампраміс. Самотны мае шанц у маі пазнаёміцца з асобай, з якой спалучыць яго штосьці асаблівае. Дома не дуйся. 4 мая хатнія справы могуць выйсці з-пад кантролю. Будзь вельмі асцярожным, каб не зашкодзіць свайму здароўю.

**(21.04. — 21.05.)** 3-5.05. усвядоміш сур'ёзнасць спраў, на якія дасюль глядзеў праз пальцы. У рэляцыях будзь больш лагодны, не ўласніцкі. У маі думай перш за ўсё пра сябе, а не пра тое, што скажуць іншыя. Не пазычай. 8 мая ўзмоцніцца твая асертыўнасць і здольнасць да ўплывання на людзей, наладзіш добрыя адносіны, сустрэнешся з зычлівасцю людзей раней да цябе абыякавых.

**(22.05. — 22.06.)** Адкрыйся на людзей. Сустрэнеш кагосьці, хто шмат зменіць. Добры час на важныя дыскусіі і вызначэнні: 7-11.05. Не дазваляй сабе занадта — і ў ежы, і ў актыўнасці, бо цела збунтуецца. Умела знойдзеш атракцыйныя прамоцыі і эфектыўна пакіруеш сваім бюджэтам. Але 2-5.05. магчымыя праблемы ў фінансах і адносінах, пільнуйся за рулём.

**(23.06. — 23.07.)** 4.05. магчымыя псіхічныя напругі, горшае самаадчуванне, не пастаў неразважлівага кроку, штосьці прыняўшы за праўду. 3-5.05. інакш глянеш на пэўныя справы, гэта звольніць цябе ад чагосьці, што цябе турбавала шмат месяцаў. З 8.05. будзеш у добрым настроі, удачы ў пачуццях і фінансах. Май — добры месяц, каб рашуча вырвацца з кепскай рэляцыі. У першай дэкадзе мая могуць чакаць цябе сямейныя праблемы, але хтосьці табе дапаможа. Дбай аб здароўе і красу.

**(24.07. — 23.08.)** 4-8.05. — агромная сіла і трываласць. Дасягнеш таго, на чым табе залежыць. Будуць цябе слухацца і паважаць. Вазьмі справы ў свае рукі. Дома старайся не спрачацца. Увесь месяц вельмі дбай аб свае вочы. У працы і фінансах новыя шанцы, дацэняць цябе, паявіцца нагода для добрага заробку.

**(24.08. — 23.09.)** Адкрыюцца перад табою новыя прафесійныя перспектывы. Будзеш вельмі кемлівы, хуткі, талковы. У маі будзеш вельмі ўлюбчывы, але і да цябе людзі будуць ліпнуць. З 7 (да 11.05.) не памыліся, будзь таксама асцярожным за рулём і пры вырашэнні важных спраў. Многа сілы, стрэс будзе мабілізаваць. Маеш шанц закончыць зацягнуты праект. Можаш пачаць ачышчаючую дыету.

**(24.09. — 23.10.)** Не ацаняй людзей на першы погляд; пад звычайнасцю можа хавацца дыямент! Маеш шанц сустрэць кагосьці вельмі цікавага. Таксама вельмі добра пойдзе ў пары, асабліва пасля 8.05. Асцерагайся фальшывых людзей. Дзве першыя дэкады збірай сілы, адпачывай. Дарэчы, цяпер не будзе ў цябе відных поспехаў, дык не натужвайся. 5-9.05. лепш змаўчы, не крытыкуй.

**(24.10. — 22.11.)** Хутка дасі рады з кожнай справай. Будзеш знакаміта арыентавацца ў сітуацыі і разведаеш, хто табе спрыяе. 4-8.05. твая баявітасць і ўплыў на атачэнне дадуць знакамітыя рэзультаты. Зменіш тое, што здаўна табе не пасуе. 4.05. магчымыя канфлікты з партнёрам; не бяры ўсяго да сэрца. У маі можаш закахацца! У першай дэкадзе атрымаеш нейкія дадатковыя грошы; выдай іх на прыемнасці, і прытым будзеш мець яшчэ прыбытак!

**(23.11. — 22.12.)** Добры час аднавіць адносіны. Папусці лейцы фантазіі і пераймі ініцыятыву! Сярод сяброў і дома 3-5.05. выплывуць старыя болі і здушаныя эмоцыі; ачысці атмасферу і пачні ўсё нанова! У маі будзеш баявіты і адважны. Ды не пераборшчвай! 3-5.05. не плануй важных сустрэч.

**(23.12. — 20.01.)** 3-5.05. урэшце зблізішся з сябрамі, і наладзіш яшчэ мацнейшую сувязь. Сінгл будзе надалей сінглам, нават у пары будзеш цаніць свабоду. Май міне пад знакам зайздрасці і падазронасці. Лепш засяродзься на хатніх справах, можаш пачаць рамонт. Звяртай увагу на людзей, якімі акаляешся. Асабліва пасля 8.05. не раскідвайся грашыма!

**(21.01. — 19.02.)** Разглядайся ўважліва, не праваронь кахання. Шукай другой палавінкі. Не будзь лішне крытычным. Задбай аб сябе натуральнымі метадамі лячэння. На працы і ў фінансах — новыя магчымасці; паставіш на добрага каня! 4.08. не трап у манію вялікасці! Не сядай на рэстрыктыўную дыету.

**(20.02. — 21.03.)** Глядзі сэрцам і розумам. Калі ты сінгл, ад мараў перайдзі да дзеянняў. 7-11.05. лёгка будзе пасварыцца; чытай дакладна тое, што падпісваеш. У сям'і старайся быць незалежным і самастойным. Абследуй свае ныркі, пазваночнік і шчытавідку. На працы не вырывайся першым. Пачні ашчаджаць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. першастаяцель у дыяцэзіі, 2. горад на Гродзеншчыне, які сям і там злучае берагі Нёмана, 3. вайсковая часць з некалькіх палкоў, 4. папрок, 5. палены цукар для падфарбоўвання кандытарскіх вырабаў, 6. вытворца смалы, 7. *Homo sapiens*, 8. раённы горад на паўднёвым захадзе Гродзеншчыны.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | | | | | | | 3 |
| | | | | | | | | | | 4 |
| | | | | | | 5 | | | | |
| | | | | 6 | | | | 7 | | |
| 8 | | | | | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 15 нумара**

Акула, Горы, пуць, сыч, турыст.

Рашэнне: **Пусты колас угару тырчыць**. Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў .

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# «Там по маёвуй росі»

## XII Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі

**Усё пачалося з міжнароднага фестывалю «Там по маёвуй росі», які адбываўся ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах. Падчас фестывалю выступалі народныя спевакі з Падляшша і Палесся, запісваліся песні, танцы і абрады. Запісаны матэрыял выкарыстоўваецца цяпер, калі фестываль пераўтварыўся ў Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росі». Яго ўдзельнікі ходзяць па вёсках Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў ды прэзентуюць мясцоваму насельніцтву ў натуральных абставінах фальклорныя песні, даўнія танцы, з малітвамі абыходзяць палеткі. XII Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росі» распачаліся 18 красавіка ў музеі Міхала Фільяновіча ў Скарышэве. Удзельнікі сустрэч з Падляшша і Палесся прайшліся ў гэты дзень валачобнымі карагодамі па выбраных вёсках Нарваўскай гміны і запрэзентавалі мясцоваму насельніцтву валачобныя і веснавыя песні ды народныя танцы. 19 красавіка падобныя сустрэчы, але з абрадам таплення *Рагулькі*, адбыліся ў вёсках Мілейчыцкай гміны. Прадугледжваецца, што сустрэчы будуць працягвацца ў красавіку і маі. Закончацца яны 10 мая ў Радзівілаўцы Мельніцкай гміны беларускімі музычнымі майстар-класамі і развучэннем традыцыйных народных танцаў.**


Міхал Фільяновіч і расспяваная «Жэмэрва»

Валачобны карагод ідзе праз Скарышэва

— У першым велікодным тыдні маладыя валачобнікі вадзілі карагоды па вёсках, спявалі валачобныя песні і агулькі. Гаспадары, да якіх яны заходзілі, дорылі ім валачобнае. Мы ад некалькіх гадоў адраджаем народныя традыцыі, водзячы карагоды па сёлах. Пазней спявалі садонькі і іншыя веснавыя песні і мы гэта таксама робім, — сказаў **Дарафей Фіёнік**, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», галоўны арганізатар фальклорных сустрэч, якія ладзяцца ў супрацоўніцтве з мясцовымі асяродкамі культуры і гміннымі самаўрадамі. — Фестываль «Там по маёвуй росі», які праходзіў у Студзіводскім музеі, мы пераўтварылі ў Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росі», бо рашыліся выйсці да людзей. Калі моладзь у мінулым хадзіла па вёсцы і спявала, то натуральнай публікай былі людзі на лавачках. Мы аднаўляем традыцыю і спяваем для жыхароў штораз то новых сёлаў. Гэтыя людзі не даехалі б у Студзіводы і гэта козыр нашых сустрэч.

У Скарышэве валачобнікаў прынялі Міхал Фільяновіч, уласнік музея, і працаўнікі Нарваўскага асяродка культуры і Гміннай управы ў Нарве, якія арганізавалі сабраным абед. Якраз у пачатку сустрэчы было холадна і пачаў ісці дождж, а толькі пасля з'явілася сонца і крыху пацяплела, хаця вецер напамінаў, што да надыходу цяпла трэба будзе яшчэ крыху пачакаць. У Скарышэва прыбылі два падляшскія калектывы: «Жэмэрва» са Студзіводскага музея і «Падляшанкі» з Гарадзіска ды два палескія з Хмелева Жабінкаўскага раёна: «Дараносіца» і «Хмелеўскія валацугі», якія спачатку спевам праслвілі Хрыстовае Уваскрэсенне і праспявалі валачобныя песні.

— Такое надвор'е як сёння ўпамінаецца ў нашых агульках. Бывае, што пасля Вялікадня ідзе дождж, холадна, трава не расце. Такое разнароднае надвор'е адлюстравалі ў песнях нашы продкі і гэта з'яўляецца прычынай дадатковых уражанняў, — гаварыў Дарафей Фіёнік.


У Скарышэве веснавыя песні праспявалі «Дараносіца» і «Хмелеўскія валацугі» з Хмелева

«Падляшанкі» з Гарадзіска спявалі ў Скарышэве песні, якія ў мінулым спявaліся ў іх наваколлі.

— У нашай вёсцы валачобнікі хадзілі ўжо на першы дзень Вялікадня, зранку. Пасля багаслужбы ў царкве мы крыху адпачывалі. Пасля бацькі будзілі нас, бо ўжо моладзь збіралася, каб хадзіць па Гарадзіску і спяваць у гонар Уваскрэсення Гасподняга. Мы спявалі тады валачобныя песні і агулькі, а гаспадары дорылі нам яйкі. Агулькі мы спявалі цэлы першы велікодны тыдзень. Весела тады было. Многа моладзі радавалася Вялікадню. Добра, што зараз можам песні нашай маладосці спяваць разам з Дарафеем Фіёнікам і яго кампаніяй па нашых вёсках. Вяртаюцца да нас успаміны з часоў юнацтва і маладосці. Мы адчуваем велікодны настрой з мінулага, — гаварыла **Анна Тэслюк**, кіраўнік «Падляшанак».

«Жэмэрва» прыехала ў аднаўленым саставе — выключна бельскія белгімназісты — з кіраўніком Аннай Фіёнік.

— Мы развучылі валачобныя песні і агулькі, якія ў нас спяваліся ў мінулым. «Жэмэрва» будзе іх выконваць разам з іншымі калектывамі ў вёсках Нарваўскай гміны, па якіх мы пойдзем валачобным карагодам. Вучні на практыцы маюць магчымасць знаёміцца з нашымі беларускімі традыцыямі, — заявіла кіраўнік калектыву «Жэмэрва» **Анна Фіёнік** і заадно настаўніца-бібліятэкарка ў бельскай «тройцы».

Вучні, удзельнікі «Жэмэрвы», мелі магчымасць пазнаёміцца з рэпертуарам «Падляшанак» і з народнымі песнямі ў выкананні Марыі Дзмітрук з Ласінкі (яны запісаны на кампакт-дысках). Зараз сталі яны запісваць посныя песні «Падляшанак», якія Дарафей Фіёнік прадбачвае выдаць на кружэлцы.

— У нашай вёсцы валачобнікі хадзілі на Вялікдзень, пасля вячэрні. Зараз моладзі ў Ласінцы вельмі мала, але традыцыя знікла намнога раней, — сказала **Марыя Дзмітрук** з Ласінкі, якая была запрошана спяваць з «Падляшанкамі».

— Мы тут, сярод беларусаў Польшчы, адчуваем сябе як дома. Спяваем нашы песні, падобныя да песень падляшукоў. Цяпер выступаем у натуральных умовах, ходзім па вёсках і спяваем для напатканых жыхароў. Нас тут прымаюць вельмі гасцінна, за што дзякуем. Ужо мы праславілі Хрыстовае Уваскрэсенне, праспявалі валачобныя песні, а яшчэ будзем спяваць веснавыя творы. Нам цікава таксама паслухаць падляшскія агулькі і параўнаць іх са сваім рэпертуарам. Мы ў Хмелеве сталі запісваць нашы даўнія песні, рэканструяваць абрады і публічна прэзентаваць іх. На трэці дзень Пасхі мы ў сябе публічна славілі Уваскрэсенне Гасподняе, на канцэрце спявалі валачобныя, веснавыя песні, арганізавалі гульні з яйкамі, — расказала **Наталля Дырман**, кіраўнік народнага музычнага калектыву «Хмелеўскія валацугі». Разам з дарослымі спевакамі з Хмелева прыехаў на Падляшша маладзёжны калектыў «Дараносіца».

— Мы часта выступаем супольна з «Хмелеўскімі валацугамі», супольна запісваем даўнія песні, рыхтуемся да выступленняў з неапрацаваным фальклорам. Наша моладзь рада, што можа пабываць у Польшчы і тут выступаць, — гаварыла **Таццяна Грыцук**, кіраўнік «Дараносіцы».

Спевакі і танцоры паабедалі ў клуні Міхала Фільяновіча, прыстасаванай на сталовую. Знаходзяцца ў ёй іконы, перад якімі сабраныя памаліліся перад абедам, і калекцыя прыгожых даўніх ручнікоў. Асноўная частка музея Міхала Фільяновіча ў Скарышэве знаходзіцца з другога боку вуліцы. Паабедаўшы, валачобнікі праспявалі гаспадарам агулькі.

— У мінулым сяляне многа спявалі. Добра, што Дарафей арганізуе такія сустрэчы і карагоды па сёлах. У нашым Скарышэве за маёй маладосці валачобнікі ўжо не хадзілі, але ведаю, што ў Ласінцы і Гарадзіску пасля Вялікадня спявалі валачобныя і веснавыя песні, — гаварыў Міхал Фільяновіч.

За пачастункам наглядала таксама дырэктар Нарваўскага асяродка культуры Агата Смактуновіч.

— Нарваўская гміна супрацоўнічае з Дарафеем Фіёнікам і яго музеем здаўна. Калі я стала кіраваць асяродкам культуры, мы працягнулі супрацоўніцтва і маем намер падтрымліваць яго ў будучыні. Нам важна, каб жыхары нашых вёсак мелі кантакт з народнымі традыцыямі і роднай беларускай культурай. Калектыў «Падляшанкі» асабліва нам дарагі, бо прэзентуе даўні аўтэнтычны фальклор. Такіх гуртоў у нас вельмі мала. «Падляшанкі» выступаюць на шматлікіх нашых мерапрыемствах. Сёння мы рады, што нашы жанчыны спяваюць па вёсках нашай гміны, — сказала дырэктар НАК **Агата Смактуновіч**.

Паспяваўшы гаспадарам, спевакі пайшлі валачобным карагодам праз вёску Скарышэва. Славілі Хрыстовае Уваскрасенне, спявалі валачобныя і веснавыя песні, затрымліваліся каля людзей, якія выходзілі на вуліцу. Пасля валачобныя карагоды прайшлі праз Даратынку, Градочна, Гародчына, Качалы, Козлікі. Першы дзень сустрэч завяршыўся ў Янове. Валачобнікі вярталіся ў Студзіводы з яйкамі, якія падарылі ім вяскоўцы, і многімі ўражаннямі.

— На рэчцы Нурчык у Рагачах Мілейчыцкай гміны будзем таліць *Рагульку*, выкананую з саломы, і аднаўляць тамашнюю традыцыю. У нас пасля Вялікадня спяваліся агулькі, якія ў Мілейчыцкай гміне называлі рагулькамі. Вада ў рэчцы цякла цэлы год і праз год можна будзе таліць другую *Рагульку*, так як гэта робяць палякі з *Мажаннай*, на першы дзень каляндарнай вясны, калі бывае, што яшчэ ляжыць снег. Нашы продкі тапілі *Рагульку* пасля Вялікадня, калі было ўжо адносна цёпла, — патлумачыў Дарафей Фіёнік.

Удзельнікі сустрэч 19 красавіка наведалі таксама іншыя вёскі Мілейчыцкай гміны.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960